ЗЬМЕСТ



У ЗАПІСАХ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва друкавалі датэтуль свае працы, зацемкі, рэцэнзіі гэткія аўтары: ЛЕУ АКІНШЭВІЧ, ЮРКА ВІЦЬБІЧ, ЛЕАНІД ГАЛЯК, ЛЕУ ГАРОШКА, АМСЬЦІСЛАУ ГАРЫГЛЯД, АУГЕН ДУНІН, АЛЕСЬ КАРПОВІЧ, НАТАЛЬЛЯ ПАЛОНСКАЯ-ВАСІЛЕНКА, МІКОЛА ПАНЬКОУ, АЛЯКСАНДРА САВІЧ, УЛАДЗІМЕР СЯДУРА, АНТОН РАВІЧ, ПЕТРА ТАТАРЫНОВІЧ, ВІТАУТ ТУМАШ.

Часапіс рэдагуе РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Выдавец: БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА, Ню Ёрк, ЗША.
Выпіска на год $ 4.00. Цана адной кніжкі — $ 1.00.

Лісты, матар'ялы, грошы трэба слаць на адрыс:
Mrs. N. Kushel, Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences,
385 Alabama Avenue, BROOKLYN 7, N. Y., U. S. A.

Published quarterly by the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences. New York, N. Y., U. S. A.
Subscription per year $ 4.00.




БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
ZAPISY — The Quarterly of the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences

Vol. III. NEW YORK 1954 № 1 (5)

А. САКОВІЧ

# Да гісторыі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту

Падаючы гэтыя кароткія зацемкі аб заснаваньні й першых гадох працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту (БДзУ) у Менску, лічу неабходным падчыркнуць, што БДзУ быў пакліканы да жыцьця ў 1921 годзе ахвярнаю працаю беларускіх грамадзкіх працаўнікоў, а не бальшавіцкаю уладаю, як гэта цяпер часта падаецца ў савецкім друку. Ідэя арганізацыі высокай навучальнай школы ў Беларусі мела свае глыбокія традыцыйныя карэньні, пра яе ўжо даўно думалі беларускія навукоўцы й над рэалізацыяй яе працавалі многія гады да дня закладзінаў БДзУ.

Кажнаму, хто цікавіўся пытаньнем вышэйшай школы ў Беларусі, ведама, што краіну вялікую абшарам і насельніцтвам, слаўную некалі, як цэнтр высака разьвітай культуры й мастацтва, расейскі ўрад пазбавіў вышэйшай школы амаль на цэлае стагодзьдзе. Ад 1832 аж да 1921 году Беларусь ня мела вышэйшых навучальных установаў. Праз увесь гэты час расейскі ўрад праводзіў сыстэматычную русыфікацыйную палітыку й, нязважаючы на неаднаразовыя захады, не даваў дазволу на адчыненьне вышэйшай школы. Расейскія ўлады разумелі добра, што вышэйшая школа ў Беларусі магла стаць асяродкам апазыцыйнага нацыянальна-палітычнага й культурнага руху. Беларусь-жа пазбаўленая сваёй высокай

 

школы паступова ператваралася ў расейскую калёнію, заняпалую культурна й эканамічна.

Неабходнасьць сваёй вышэйшай школы, гэтай крыніцы веды й жывой творчай думкі, заўсёды добра разумелі дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэньня. З пачаткам рэвалюцыі 1917 г. беларускі нацыянальна-культурны й рэвалюцыйны рух набывае надзвычайную глыбіню й размах. Ня толькі беларускія дзеячы ў Беларусі, але й беларускія бежанцы, беларускія вайскоўцы, якія падчас першай сусьветнай вайны былі закінутыя далёка ад бацькаўшчыны, пачынаюць гуртавацца. Нам ведамыя буйныя беларускія арганізацыі ў Петраградзе, Адэсе, Кіеве, Маскве. Пытаньне аб адчыненьні ўнівэрсытэту й іншых вышэйшых установаў у Беларусі стае адным з галоўных, праграмных патрабаваньняў беларускіх нацыянал-дэмакратычных арганізацыяў. Напрыклад у 1917 г. беларусы ў Петраградзе рабілі захады ў справе звароту ў Беларусь Горы-Гарэцкага земляробскага Інстытуту (Інстытут гэты ў 1865 г. быў перанесены ў Пецярбург) і аб перанос у Менск Юр'еўскага, эвакуаванага падчас вайны, унівэрсытэту.

І ў 1918 г., адразу пасьля абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, у беларускім друку ўзьнімаецца пытаньне пра неабходнасьць адчыненьня беларускага ўнівэрсытэту ў Менску. Былі распрацаваныя й два праекты ўнівэрсытэцкіх статутаў. Адзін зь іх уклаў праф. М. Даўнар-Запольскі ды падаў старшыні Народнага Сакратар'яту БНР. Разам із статутам праф. Даўнар-Запольскі падаў і наясьненьні, у якіх грунтоўна абаснаваў неабходнасьць адчыненьня ўнівэрсытэту ў Беларусі. Гэты праект Народны Сакратар'ят БНР разгледзіў і пастанавіў: „...даручыць праф. М. Даўнар-Запольскаму, С. Некрашэвічу й Я. Лёсіку ў супрацы зь іншымі навукоўцамі падрыхтаваць усё патрэбнае да адчыненьня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту..."[1]).

У абодвых праектах былі намечаныя гэткія факультэты: гістарычна-філёлягічны, юрыдычны, мэдыцынскі, фізыка-матэматычны й багаслоўскі. Апрача гэтага ў праекце праф. М. Даўнар-Запольскага быў прадбачаны й шосты факультэт — камэрсыйна-эканамічны. Праф. Даўнар-Запольскі зазначаў вялікую патрэбу й карысьць такога факультэту, падчыркваючы, што арганізацыя яго ня будзе вымагаць шмат асобных катэдраў.

[1]) Каляндар „Сваяк", Вільня, 1919 г., бач. 18.



Другі праект унівэрсытэцкага-ж статуту ўклаў акадэмік Карскі ды надрукаваў яго ў менскай газэце „Вольная Беларусь". Хоць ніводзін з гэтых праектаў і ня ўдалося тады зьдзейсьніць, бо ўраду БНР прышлося хутка эміграваць, ідэя адчыненьня ўнівэрсытэту захоўвала сваю актуальнасьць сярод тых беларускіх дзеячоў, якія засталіся для грамадзкай працы ў Беларусі, засталіся для яе з усёй сьведамасьцяй, што новая акупацыйная ўлада нясе тую-ж нацыянальную няволю, што й былая царская. У сваёй прамове з прычыны сьмерці А. Бурбіса ў 1922 г. Язэп Лёсік гэтую думку падчырквае выразна й бяз страху словамі: „Ты не дайшоў яшчэ да Абяцанае Зямлі, ня дойдзе яшчэ шмат хто з нас, бо ўсе мы ў няволі радзіліся й мусім памерці, як тое яўрэйства, што вадзіў Майсей па пустыні".

Шмат энэргіі й стараньняў трэба было пакласьці Усеваладу Ігнатоўскаму, Аляксандру Чарвякову, Язэпу Лёсіку, Сьцяпану Некрашэвічу й іншым, каб, пад няспынным бальшавіцкім кантролем і перашкодамі, ідэя адчыненьня беларускага ўнівэрсытэту ня была пахаваная й ператварылася ў запраўднасьць. 11 ліпеня 1921 г. быў зацьверджаны дэкрэт аб адчыненьні Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту з факультэтамі: грамадзкіх навук, мэдыцынскага, сельска-гаспадарчага й фізыка-матэматычнага. 30 кастрычніка таго-ж году адбылося й фактычнае адчыненьне. Першым рэктарам БДзУ быў зацьверджаны праф. Уладзімер Пічэта.

Ужо ў першыя гады існаваньня структура БДзУ падлягала некаторым зьменам. У 1927 г. унівэрсытэт меў факультэты права й гаспадаркі з аддзеламі эканамічным і праўным; мэдыцынскі й пэдагагічны факультэты з аддзеламі сацыяльна-гістрычным, літаратурна-лінгвістычным, фізыка-матэматычным і прыродазнаўча-гістарычным. Сельска-гаспадарчы факультэт быў рэарганізаваны ў Сельска-Гаспадарчую Акадэмію й перанесены ў Горы-Горкі.[2])

[2]) У 1941 г. БДзУ меў 6 факультэтаў: фізыка-матэматычны, хімічны, географічны, біёлягічны, гістарычны й філёлягічны. Пры ўнівэрсытэце бы-



 

Трэба памятаваць, што БДзУ быў закладзены ў самы цяжкі эканамічна паваенны час, поўны нястачаў у выніку ваенных зьнішчэньняў, пры разбуранай цалкам гаспадарцы Беларусі. У зруйнаваным вайною Менску ня было нават і адпаведнага пад унівэрсытэт будынку. Не хапала й сродкаў для прыдбаньня адпаведнага навуковага аснашчэньня. Каб загарантаваць для новапаўсталага ўнівэрсытэту належны прыплыў навуковых сілаў неабходна было стварыць навукоўцам гэткія ўмовы, каб гадзіліся на пераезд на працу ў Менск. Шмат хто з прафэсароў-чужынцаў баяліся ехаць наагул у Менск, бо яны ня верылі, што БДзУ будзе наагул доўга існаваць.

У ўспамінах, прысьвечаных першым гадом існаваньня й дзейнасьці БДзУ праф. М. Піотуховіч дае нязвычайна праўдзівы й яскравы малюнак маладога ўнівэрсытэту: „Жыва прадстаўляецца знадворная абстаноўка аўдыторыяў у першыя гады існаваньня БДзУ... Бедна й няпрытульна было ў гэтых аўдыторыях. Нізкія лавы, на якіх раней сядзелі вучні падгатоўчай клясы, а цяпер зь вялікай наругай для сябе ўсаджваліся барадатыя й шаноўныя дзядзькі студэнты, запэцканыя, даўно нябачыўшыя рамонту сьцены, часам слабое сьвятло сьвечкі замест электрычнасьці — у такой жабрацкай абстаноўцы прыходзілася пачынаць працу. Але ў грудзёх студэнцтва й прафэсуры палыхаў бадзёры юнацкі энтузіязм, верылася, што пачынаецца справа вагромністай важнасьці, і гэты энтузіязм, гэта магутная вера ў будучыню, як-та скрадвалі жабрацтва й няпрытульнасьць знадворнай абстаноўкі. У аўдыторыях, часам халодных, мала пратопленых, было пасвойму цёпла й прытульна, бо ў іх моцна біўся пульс сьвежай навуковай думкі..."

Так, можна паверыць, што ў аўдыторыях, дзе часта ня можна было запісваць чарнілам лекцыі, бо яно замярзала, магло аднак быць утульна. Было ўтульна, бо нязломная вера ў неабходнасьць здабыцьця лепшай будучыні свайму народу натхняла й яднала беларускую моладзь і „барадатых дзядзькоў" за якімі былі гады сьведамай нацыянальнай і палітычнай працы за вызваленьне сваёй бацькаўшчыны.

ло 17 лябораторыяў, батанічны сад, гістарычна-археолягічны, зоолягічны ды геалёга-мінэралягічны музэі. Унівэрсытэцкая бібліятэка ў гэтым годзе мела 220.000 тамоў.



З заснаваньнем БДзУ адкрыліся магчымасьці для зьдзейсьненьня трох вялікіх мэтаў, якія заўсёды кламіся ў васнову беларускага адраджэньня: разьвіцьцё беларускае мастацкае мовы, вывучэньне гісторыі Беларусі й фармаваньне кадраў беларускае інтэлігенцыі.

З самога заснаваньня ў складзе прафэсароў БДзУ былі высока-кваліфікаваныя навуковыя сілы, як праф. Н. Янчук — катэдра старажытнай беларускай пісьменнасьці, праф. М. Даўнар-Запольскі — катэдра гісторыі Беларусі, праф. Уладзімер Пічэта — катэдра народнай гаспадаркі Беларусі; праф. Іваноўскі — катэдра псыхалёгіі; праф. Замоцін — катэдра расейскай літаратуры; праф. А. Еўлахаў — катэдра заходня-эўрапейскай літаратуры, і г. д.

Асаблівая ўвага была зьвернутая беларускімі дзеячамі на гістарычныя прадметы. Кажны студэнт-гісторык, які студыяваў у БДзУ да 1930 г. можа з гонарам адзначыць, што ён быў вучнем праф. М. Даўнар-Запольскага, праф. Ігнатоўскага, праф. Пічэты. Ведамымі вучонымі з шматгадовым пэдагагічным стажам былі й акадэмік Н. Нікольскі — катэдра гісторыі Усходу; акадэмік Ул. Перцаў — катэдра агульнай гісторыі; праф. Д. Жарынаў — катэдра расейскай гісторыі; праф. А. Ясінскі — катэдра агульнай гісторыі; праф. Турук — катэдра беларускай гісторыі; праф. Д. Канчалоўскі, праф. В. Дзяканаў і іншыя. Яшчэ дацэнтамі пачалі сваю дзейнасьць у БДзУ нязвычайна таленавіты вучоны-гісторык праф. В. Друшчыц, пазьней загінуў у сылцы як „нацдэм", і акадэмік А. Савіч, ведамы цяпер як буйны савецкі гісторык.

Бальшыня гэтых прафэсароў была ня толькі ведамымі вучонымі, але й нязвычайнымі выкладчыкамі. Пад уплывам гэтых аўтарытэтных навукоўцаў да 30-х гадоў выпрацоўваліся навукова-мэтадалягічныя спосабы беларускага студэнта-гісторыка. Іх сэмінарыі былі для студэнтаў запраўднаю школаю, якая прывучала да самастойнай навукова-дасьледчай працы. Кажны сьведамы студэнт-беларус канцэнтраваў сваю дасьледчую ўвагу на вывучэньні гісторыі беларускага народу й імкнуўся ўзяць ад сваіх выкладчыкаў усё тое, што яны маглі даць.

На працягу толькі некалькі першых гадоў БДзУ стаўся буйным цэнтрам навуковай думкі й асьветы ў Беларусі. На 1 кастрычніка 1927 г. па сьпісе БДзУ лічылася 2672 студэнты, 49 прафэсароў, 51 дацэнт, 74 асыстэнты, 39 ардынатараў, 8 лектароў. Нацыянальны склад студэнтаў працэнтна выглядаў гэтак: беларусоў — 54%, жыдоў — 37.5%, расейцаў — 5%, палякаў — 1.5%, іншых — 2%.

Маладыя беларускія навукоўцы хутка разгарнулі свае здольнасьці й на працягу толькі некалькі гадоў вырасьлі ў выдатную навуковую сілу. З вышыні катэдраў БДзУ чулася беларуская мова, працы беларускіх навукоўцаў друкаваліся ня толькі ў Беларусі, але й за межамі. У Чэхаславаччыну, Нямеччыну, Францыю, Аўстрыю адкамандыроўваліся беларускія навукоўцы для навуковай працы. БДзУ стала мяняўся сваімі навуковымі выданьнямі з навуковымі ўстановамі Нямеччыны, Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Чэхаславаччыны, Злучаных Дзяржаваў Амэрыкі й шмат іншых.

Было арганізаванае Навуковае Таварыства БДзУ з сэкцыямі — сацыяльна-гістарычнай, літаратурна-мовазнаўчай, юрыдычнай, прыродазнаўчай, матэматычнай, мэдычнай і пэдагагічнай. Сыстэматычна выходзілі „Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту" у якіх навукоўцы БДзУ друкавалі свае навуковыя працы. „Працы" БДзУ ад 1921 да 1932 г. ёсьць у Ню Ёрскай Публічнай Бібліятэцы й кажны азнаёміўшыся зь імі можа пабачыць навуковую каштоўнасьць тых працаў, што былі друкаваныя да 1930 г. Шмат навукоўцаў мэдычнага факультэту друкавала свае дасьледчыя працы ў нямецкіх часапісах. Там-жа праф. Н. Нікольскі друкаваў манаграфію аб магічнай літаратуры старажытнага Ізраілю.

Беларускія „нацыянал-дэмакраты" надавалі вялікае значэньне вывучэньню свайго краю, і дзеля гэтага ў БДзУ да 1930 г. выкладалася шэраг прадметаў краязнаўчага характару. З гэтай-жа мэтай ў Беларусі арганізаваліся навуковыя экспэдыцыі дзеля збору рознага матар'ялу навуковага характару.

У тыя гады й беларускія навукоўцы, і беларускае студэнцва, нягледзячы на сталую небясьпеку арышту ды выгнаньня, якая грозна вісела над галавою кажнага, былі захопленыя вялікім творчым ды ахвярным уздымам, гэтак характэрным для кажнага народу ў пару адраджэньня. Іхная адданая праца захапляла нават і прафэсароў-чужынцаў. Як зыркі прыклад можна падаць першага рэктара БДзУ, акадэміка Уладзімера Пічэту, які ў 1930 г. за беларускі „нацыянал-дэмакратызм" быў высланы на пасяленьне ў Вятку, бяз права выкладаньня ў навуковых установах. Толькі ў 1939 г. ён мог ізноў нанава пачаць сваю навуковую дзейнасьць, але, нажаль, не для нас, бо ўжо „...абаснаваную на адзіным запраўдным мэтадзе — Марксізьме-Ленінізьме".[3])

Хто ведае суворую савецкую запраўднасьць, таго гэткая „перамена" нават у вялікіх навукоўцаў ня дзівіць. Самае-ж галоўнае для нас, што за гады 1921-1930 Пічэта зрабіў вельмі шмат для разьвіцьця беларускай гістарычнай навукі. Ягоныя дасьледваньні гэтай пары-запраўдны навуковы скарб. Нават і ў працах „другога пэрыяду", пасьля 1939 г., у Пічэты вычуваюцца выразныя сымпатыі да беларускага народу.

У 1948 г., пасьля сьмерці Ул. Пічэты, савецкія вучоныя пры разглядзе навуковай спадчыны гэтага выдатнага гісторыка згодна падчыркваюць нязвычайную зацікаўленасьць і любоў Пічэты да гісторыі Беларусі. „У вабарону беларускай культуры з характэрным для яго захапленьнем выступіў Уладзімер Іванавіч Пічэта. У 1924 г. ён надрукаваў артыкул аб беларускай мове як фактары нацыянальнай культуры. Ён напісаў аб росквіце беларускай культуры ў XVI стагодзьдзі, аб г. зв. „беларускім адраджэньні". Ён прысьвяціў некалькі працаў тварцу беларускай культурнай мовы й беларускага кніжнага друку Францішку Скарыне. У вадным з сваіх артыкулаў 1928 г. аб высокай школе ў Беларусі ў XIX — XX стагодзьдзях У. І. Пічэта паказаў, як беларускі народ змагаўся ў часы царызму за права мець сваю школу!"[4])

Вось коратка аснаўныя этапы разьвіцьця й дзейнасьці БДзУ ў першыя 8 гадоў. Трэба зазначыць, што на працягу гэтых „больш шчасьлівых гадоў" бальшавіцкая ГПУ ніколі не драмала й сыстэматычна кагось на ўнівэрсытэце арыштоўвала ці ссылала. Быў, для прыкладу, праведзены арышт „на-

[3]) Глядзі С. Б. Бахрушин: В. И. Пичета, как историк СССР. Масква 1949 г.

[4]) С. В. Бахрушин, В. И. Пичета как истарик СССР.

цыянал-дэмакратычнай" групы студэнтаў на чале зь Міхасём Адзярыхай; рабіліся арышты індывідуальныя студэнтаў; быў высланы зь Менску праф. М. Даўнар-Запольскі, дац. А. Савіч і шмат іншых.

З 1929-30 г. пачалося масавае бязагляднае руйнаваньне беларускай навукі, плянавае вынішчаньне беларускіх навукоўцаў і наагул усяго беларускага народу. Тэтак званы пэрыяд „пераходу да сацыялізму", перыяд „пераламу", цяжкой хваляй пракаціўся па ўсім Савецкім Саюзе, але з асаблівай безагляднасьцяй ён абрушыўся на рэспублікі Украіну й Беларусь.

У гэты пэрыяд цяжка пацярпеў і БДзУ. Прафэсары, дацэнты, асыстэнты беларускага паходжаньня былі выарыштаваныя амаль усе бяз вынятку. Былі арыштаваныя, для прыкладу, праф. Аляксандра Цьвікевіч, дац. Аркадзь Смоліч, дац. Мікола Азбукін, праф. Язэп Лёсік, дац. Міхась Грамыка, др. Паўла Трамповіч, др. Паўла Каравайчык, і шмат іншых. Прафэсар Ігнатоўскі на знак пратэсту супроць тэрору й прасьледу пакончыў самагубствам. Былі арыштаваныя, а пасьля трапілі на ссылку й многія сотні беларускай студэнцкай моладзі.

Ня стала ў БДзУ шмат каго з старой прафэсуры. На іх месца склад прафэсароў і дацэнтаў унівэрсытэту папаўняўся прафэсарамі тыпу праф. Поташа. Поташ, бугальтэр па прафэсіі, скончыў „Інстытут Чырвонай Прафэсуры" ў Маскве. Ён, як „чырвоны прафэсар", мусеў навучаць беларускіх студэнтаў „марксыцка-ленінскай мэтадалёгіі". Чытаў ён курс „Гісторыі рэвалюцыйных рухаў Расеі ў XX ст." Для студэнтаў старэйшых курсаў было запраўднай пакутай слухаць ягоныя лекцыі, у якіх ня было ні пляну, ні зьместу. Чытаў ён парасейску, але трэба ведаць, што й гэтаю мовай ён не валодаў. Студэнты часта кпілі, што Поташа трэба паслаць яшчэ на навуку да праф. Пічэты, які пры здаваньні залікаў патрабаваў ясна азначанай думкі, і, калі студэнт блытаўся, ён моцна злаваўся ды крычэў: „Раней, як ісьці здаваць залік, навучэцеся будаваць просты сказ. Дзе ў вашым сказе дзейнік, дзе выказьнік?" У Поташа цяжка было знайсьці і дзейнік, і выказьнік.

Студэнты былі мацнейшыя за яго й як гісторыкі, і ім цяжка было слухаць прафэсара, які ня раз вульгарызаваў гістарычныя факты. Калі студэнты папробавалі ненаведваць ягоныя лекцыі, іх змушалі да гэтага рэгістраваньнем прысутнасьці ды вымаганьнямі тлумачэньняў чаму апусьціў лекцыю. Змушаныя да прысутнасьці на лекцыях Поташа студэнты байкатавалі іх іншым спосабам: на лекцыях кажны займаўся нечым сваім — хто рыхтаваў даклад да сэмінарыя, хто перапісваў ад сябры лекцыю ці канспэктаваў нейкі матар'ял. Поташ за ўсё гэта мсьціўся пазьней пры здаваньні залікаў, для якіх ён даў перапрацаваць тры тысячы бачынаў матар'ялу й пры гэтым вымагаў веды безьлічы драбніцаў. Асабліва пападала студэнтам „барадатым дзядзьком", якіх Поташ прымушаў здаваць па пяць разоў.

Мяняецца ў гэтым часе рэзка ня толькі склад прафэсуры БДзУ, але й склад студэнцва. Гэтак, калі ў першыя гады існаваньня ўнівэрсытэту на гістарычны аддзел ішла пераважна сьведамая нацыянальна беларуская моладзь, дык ад 1930 г. студэнтам-гісторыкам мог стаць толькі сябра камсамолу.

У 1932 г. навукоўцы фізыка-матэматычнага факультэту публікуючы ў „Працах Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту" свае дасьледчыя працы прысьвечаныя фізыцы й матэматыцы ў уводзінах вінавата зазначаюць, што: „гістарычныя пастановы ЦК нашай партыі аб навуцы на службе сацыялістычнага будаўніцтва, аб тэхпрапагандзе, аб барацьбе на 2 фронты, аб сярэдняй і пачатковай школе, аб павышэньні якасьці прадукцыі, а таксама 6 умоў т. Сталіна, яшчэ не знайшлі таго адбітку, які яны павінны былі знайсьці. — Гэта слабыя бакі нашага выпуска"[5]).

Можна падаць яшчэ шмат прыкладаў вельмі падобных да вышэй пададзенага, але й гэтага аднаго даволі, каб яскрава ўявіць тыя сумныя ўмовы й невялікія магчымасьці, якія скла́ліся ад 1929/30 году для разьвіцьця навукі ў БДзУ. Ад гэтай пары пачынаецца новая балонка ў гісторыі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту.

---

[5]) Працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, Менск, 1932 г.

**АЛЕСЬ КАРПОВІЧ**

# *Да праблемы беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы*

Uroffenbarung nenn' ich Musik. In keiner der Künste strömt der verschlossene Mensch also kristallbar heraus.

**Gottfried Kinkel**

Прынцыпы нацыянальнага стылю ў музыцы — замест існаваўшага даўней займа інтэрнацыяналізму — пасьля першай сусьветнай вайны ўсё часьцей выходзяць на авансцэну музыказнаўства. Калі ў мінулым стагодзьдзі, сьледам за нашым суродзічам М. Глінкай, які заснаваў (шмат у чым на матар'яле беларускага песеннага фальклёру) расейскую нацыянальную музычную школу, зьявіліся, незалежна ад яго, таленавітыя прадстаўнікі нацыянальнай музыкі й у іншых эўрапейскіх краінах (Ґрыґ у Нарвэгіі, Смэтана й Дворжак у Чэхаславаччыне, Сыбеліюс у Фінляндыі, Ґранадас і Дэ-Фал'е ў Гішпаніі, ды шэраг іншых), дык цяпер можна гаварыць аб існаваньні нацыянальных музычных школаў і за акіянам (Вільяс-Лобас прадстаўляе Бразылію, Дытнатэр — Аргентыну, Кавос — Мэксыку й г. д.).

Дакладнаму разгляду музыкі паасобных краінаў прысьвячаюцца зьмястоўныя артыкулы й вялікія працы. Калі ў ведамага нямецкага музыказнаўцы другой паловы мінулага стагодзьдзя H. Riemann'а, які выдаў вялікую колькасьць глыбокіх музычна-тэарэтычных дасьледваньняў, у тым ліку й славуты „Musiklexicon"), паймо нацыянальнага стылю амаль што не закранутае, дык сучасны нямецкі гісторык музыкі праф. H. I. Moser у сваіх „**Lehrbuch der Musikgeschichte**" і „**Musiklexicon**" аддае распрацаваньню гэтага займа вельмі паважнае месца. У ягоных працах мы знойдзем добрасумленнае дасьледваньне музычнага мастацтва паасобных народаў. Ён разглядае й робіць адмысловыя высновы пра музыку сэрбскую, харвацкую, балцкіх народаў (кажнага паасобку), цюрскую, бразыльскую й г. д. (не гаворачы, ведама, аб музыцы большых краінаў), пералічае нацыянальных кампазытараў, апісвае народныя інструманты.



Адно пра беларускую музыку мы ня знойдзем аніводнага слова ў ніводнай найноўшай нават і найпаўнейшай гісторыі музыкі або Musiklexicon'е. Нашую музыку й ейных прадстаўнікоў заходне-эўрапейскія аўтары цалкам памінаюць маўчаньнем, быццам яе наагул і няма. Адзінае „беларускае", што трапіла на балоны Musiklexicon'у Moser'а, — гэта цымбалы, але й пра іх гаворыцца адно як пра „цыганскі народны інструмант".

Бязумоўна, на балонах музычна-дасьледных працаў савецкіх музыказнаўцаў беларуская музыка знаходзіць належнае месца, але аўтары гэтых працаў не распрацоўваюць „небясьпечнае пытаньне" нацыянальнага ў музыцы з прычынаў зусім зразумелых.

Тымчасам, сучасная прафэсійная беларуская музычная культура ўжо даўно вышла з свайго пачаткавага стану. Створаная беларускімі кампазытарамі камэрная, сымфанічная й опэрная музыка можа з правам заняць месца побач з творамі ведамых заходне-эўрапейскіх кампазытараў. Вось чаму вельмі паважным і на часе зьяўляецца пытаньне — ці гэта толькі „добрая музыка" ў вагульным сэньсе гэтага слова, ці гэта музыка, якая мае свой собскі нацыянальны твар, якая адрозьніваецца ад музычнай творчасьці кампазытараў іншых народаў рысамі свайго, толькі ёй свомага, нацыянальнага стылю?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба найперш удакладніць само паймо „стыль". Між рознымі, часам вельмі цьмянымі й шматслоўнымі тлумачэньнямі гэтага слова, вылучаецца сваёй ляканічнасьцяй і, разам з тым, вычарпальнасьцяй, азначаньне праф. Мозэра: „Стыль — гэта тое, што задзіночвае паасобныя мастацкія зьявішчы". Аналягічна разумее стыль і сучасны нямецкі музыказнаўца I. Volklets: „Стыль — гэта агульныя, пры ўсіх індывідуальных розьніцах, аднолькавыя рысы".

Паймо стылю выкарыстоўваецца ў дачыненьні да пэўнай гістарычнай эпохі (прыкладам — стыль „ампір"), да выдатнай асобы мастака (стыль Бэтговэна, Ваґнэра), да жанраў творчасьці (камэрны, опэрны, сымфанічны стыль), да спосабаў выкананьня (інструмантальны, вакальны стыль) і г. д. Кажны падвід займа стылю складаецца з цэласьці пэўных, сталых інгрэдыентаў-азнакаў, якія твораць ягоную сваеасаблі-

васьць, непаўторнасьць, самабытнасьць. Бязумоўна, гэтыя азнакі будуць розныя для кажнага падвіду. Інгрэдыенты стылю эпохі вынікаюць з характару й памеру гістарычных зьявішчаў, пэрсанальны стыль адлюстроўвае рысы індывідуальнасьці мастака, стыль выкананьня залежыць ад тэхнічных і выразных якасьцяў інструманту. У сваю чаргу й нацыянальны стыль зьяўляецца выяўленьнем душы нацыі, усе духовыя своеасаблівасьці й рысы народу знаходзяць у ім сваё адлюстраваньне.

Асаблівасьці нацыянальнага стылю найлягчэй прасачыць і пабачыць на матар'яле музычнага фальклёру, дзе яны выяўляюцца найбольш чыста й яскрава.

— „Пільна прыслухоўвайся да ўсіх народных песьняў, яны зьяўляюцца скарбніцаю найчараўнейшых мэлёдыяў і дазваляюць сягнуць зрокам у характар розных народаў" — вучыў кампазытар — рамантык Р. Шуман. Беларускі народ вылучаецца сваёй высокай прыроджанай музыкальнасьцяй і створаныя ім песьні надзілі творчую ўвагу выдатных прадстаўнікоў музычнага мастацтва іншых народаў (Манюшка, Шапэн, Карловіч, Мусоргскі, Ґрэчанінаў ды інш.). Шмат этнографаў 19-га ст. прысьвяцілі ўсё сваё жыцьцё зьбіраньню й запісам беларускага музычнага фальклёру (Шэйн, Радчанка, Прохараў, Грыневіч, Шыдлоўскі, Абрамовіч, Гацкі).

Ня гледзячы на тое, што яны абмяжоўваліся пераважна толькі зьбіраньнем матар'ялаў, пакідаючы бяз увагі аналіз і тэарэтычнае вывучэньне сабранага, праца гэтых зьбіральнікаў і гарманізатараў мела вялікае пазытыўнае значаньне, бо яна сталася своеасаблівым працэсам сукрытага награмаджаньня творчых магчымасьцяў і працэс гэты ў будучыні рэалізаваўся на арэне прафэсійнага музычнага мастацтва, адчыніўшы перад беларускімі кампазытарамі наступных пакаленьняў шырокія творчыя даляглядзы.

Да нейкае меры пралілі сьвятло на ладавае пабудаваньне беларускае песьні й выявілі яе із стану „terra incognita" дасьледваньні ў гэтай галіне выдатных сучасных беларускіх кампазытараў-тэарэтыкаў М. Куліковіча й М. Равенскага.

Глыбокае ўвагі варты той факт, што, незважаючы на шматвяковы палітычны прыгнёт і пазбаўленьне магчымасьці



вольна разьвіваць сваю нацыянальную культуру, беларускі народ пранёс праз стагодзьдзі цяжкіх гістарычных выпрабаваньняў самабытнасьць і яснасьць рысаў свайго музычнага фальклёру. Гэтая яскравая самабытнасьць беларускай народнай песьні была прычынай ейнага ўплыву на музычны фальклёр ейных геаграфічных суседзяў — Расеі, Польшчы, Балцкіх краінаў. Беларускай-жа народнай песьні засталіся зусім чужымі й тэатральны надрыў, які часта адчуваецца ў расейскіх песьнях (цыганскія ўплывы) й мэханічнае паўтарэньне, банальная нескладанасьць прадукту расейскага фабрычна-гарадзкога жыцьця — „частушкаў". Гэты факт захаванасьці чысьціні „душы" свайго музычнага мастацтва сьветчыць аб вялікіх духовых якасьцях беларускага народу, аб ягоным духовым „здароўі", — фактарах, дзякуючы якім ён здольны перамагаць, ператрываць трагічныя падзеі, якія выпалі на ягоную долю.

Ад стагодзьдзяў сівой мінуўшчыны захаваліся ладавыя своеасаблівасьці беларускай народнай песьні. Старадаўныя лады й гукарады, вольны, часта зьменлівы мэтр, які часам цяжка ўкласьці ў рамкі эўрапейскіх музычных формулаў, рэчытатыўнасьць і арнамэнтацыя мэлёдыкі, ейныя своеасаблівыя выразныя ходы — гэтыя фактары ня сталіся музычна-архаічнымі рэліквіямі, але ўзьявіліся ў традыцыю народнай песьнятворчасьці. Захаваўшыся напрацягу тысячагодзьдзяў, яны дайшлі да нашых дзён ува ўсёй сваёй непаўторнай сьвежасьці й арыгінальнасьці.

Агульны характар беларускай народнай песьні склаўся пад уплывам своеасаблівасьцяў псыхалёгіі беларускага народу. Беларус па сваёй прыродзе нешматслоўны — і песьні ягоныя вызначаюцца лякавічнасьцяй музычнае мовы, мудрай ашчаднасьцяй і стрыманасьцяй сродкаў выражэньня. Лагоднаму, чульліваму характару беларуса найбольш блізкая эмацыянальная сфэра лірыкі, у якой створаныя запраўдныя шэдэўры нашага музычнага фальклёру.

Беларус шчыры й просты, але побач з гэтым, ён перажывае й адчувае глыбака й балюча — і песьням ягоным свомыя гэткія глыбокія й шчырыя нюансы, якія адразу сягаюць у душу чалавека ды моцна захапляюць яе.

Беларус глыбака закаханы ў сваю прыроду — і песьням ягоным характэрныя рамантычныя настроі, зьвязаныя з адчуваньнем прыгожых краявідаў роднага краю.

Зразумела, што гэтыя эмацыянальныя своеасаблівасьці беларускай песьні ня выключаюць наяўнасьці ў ёй і іншых эмацыянальных рысаў, яны зьяўляюцца толькі больш характэрнымі з гледзішча стылёвага абагульненьня.

На фундамэньце беларускага песеннага фальклёру будуецца, пачынаючы ад 20-х год нашага стагодзьдзя прафэсійная музычная культура, выкарыстоўваючы сваім тэхналягічным майстэрствам эмацыянальныя й ладавыя багацьці, закладзеныя ў гэтым фальклёры. Гэта зусім ня так проста — выкарыстаць інтанацыі народнае мэлёдыі для ўласнай творчасьці, каб гэтая мэлёдыя ня згубіла сваёй самабытнасьці, але наадварот, перадала яе мастацкаму твору. Трэба знайсьці адпаведныя сродкі й прыймы разьвіцьця, гарманічныя, контрапунктныя, рытмічныя й тэмбравыя рэкурсы, што патрабуе вялікага веданьня своеасаблівасьцяў фальклёру, высокае тэхнічнае падрыхтовы і — што часта бывае вырашальным — асабліва дасканалага нутранога пачуцьця.

Запраўднай шляхапаказальнай вехай да стварэньня нацыянальнага музычнага стылю сталася музыка Ул. Тэраўскага да п'есы Чарота „На Купальле" (1922 г.) — цёплая, шчырая, сардэчная й непасярэдная, цалкам вытрыманая ў народным духу.

У прадмове да свайго зборніка гарманізаваных беларускіх народных песьняў „Лірнік" (1922), Тэраўскі выразна вызначыў сваё творчае credo. Ён піша, між іншага: „пры гарманізацыі песьняў я стараўся цалкам захаваць народную мэлёдыю". Сваімі апрацоўкамі ён хоча давесьці, што „беларускія песьні паводле свайго прыгаства й багацьця ня горшыя за іншыя, што ў іх, як у люстры, адбіваецца ўвесь духовы настрой гаротнага селяніна". Гэтае сваё кампазытарскае credo ён цалкам захаваў і ў нескладанай, нібы поўнай сьвежага, вясновага водыру музыцы „На Купальле". Гарманізацыя народных мэлёдыяў вельмі простая й стрыманая. Яна ніколі не абцяжвае й ня псуе мэлядычнае лініі. „На Купальле" — гэта яшчэ ня опэра ў сучасным сэньсе гэтага слова, як з боку музычна-тэхналягічнага, так і таму, што музычныя нумары чаргуюцца тут з дыялёгамі дзеючых асобаў (як у музычна-драматычных творах першага этапу разьвіцьця нямецкай нацыянальнай опэры — Singspiel), але твор гэты непараўнальна вышэйшы ў сваім мастацкім значаньні за звычайную музыку да тэатральных п'есаў, якая мае сваёй мэтаю адлюстраваньне й выражэньне толькі некаторых, асобных лірычных ці драматычных момантаў і часта зьяўляецца лішнім ды чужым дадаткам да п'есы. У дадзеным выпадку, наадварот, можна гаварыць пра арганічнае зьліцьцё беларускага кампазытара й беларускага драматурга. Нават больш за гэта, Тэраўскаму ўдалося сваёй музыкай узьняць п'есу Чарота на новую мастацкую вышыню, даць ёй новае жыцьцё. Дзеля гэтага, музыка „На Купальле" зрабіла немалы ўплыў на беларускае музычнае мастацтва, да стварэньня якога далучыўся ў далейшым шэраг кампазытараў. Яны, кажны паводле сваіх творчых сілаў, свае творчае індывідуальнасьці, распрацавалі ўсе жанры музычнай творчасьці, ад рамансавай лірыкі й камэрнай музыкі да вялікіх формаў сымфоніі й опэры. Ня ўсім ім удалося, гарманічна спалучыўшы ў сваіх творах праўдзівы аб'ектывізм у падыходзе да тэматычнага матар'ялу з суб'ектывізмам уласных пачуцьцяў,шчыльна падыйсьці да разьвязаньня праблемы нацыянальнага стылю. Гэтаму перашкодзілі або нахіл да разьвіцьця традыцыяў расейскай школы (праф. Залатароў, Падкавыраў, часткава Багатыроў), або празьмернае ўглыбленьне ў суб'ектывізм уласных пачуцьцяў (Аладаў), або недахоп тэхналягічнай базы (Чуркін).

Паважнае месца сярод гэтых кампазытараў займае А. Цікоцкі. Своямая ягонай творчасьці шырокая мэлядыйная лінія сынтэзуе ў сабе асаблівасьці інтанацыйнага багацьця беларускай народнай песьні, узоры якой кампазытар старанна зьбіраў. Некаторыя ягоныя рамансы, сымфонія № 2 (1939 г) і шэраг вакальна-інструмантальных эпізодаў опэры „Міхась Падгорны" сьветчаць аб блізіні аўтара да народнай творчасьці ў пляне самастойнага творчага launching пeratварэньня й разьвіцьця народна-песенных зваротаў ды інтанацыяў на падставе даволі высокай тэхнікі. Адцеміць трэба й творчасьць кампазытара Р. Самохіна, творы якога заслугоўваюць на ўвагу як з боку агульнае мастацкасьці, гэтак і з боку сваёй народнасьці як, прыкладам, ягоная „Беларуская тэма з варыяцыямі" для

 

сымфанічнага аркестру. Вялікім укладам у беларускую музыку зьявілася праца Самохіна з цымбальным ансамблем, агульны склад якога ён вызначыў у згодзе з патрабаваньнямі мастацкага гучаньня й пакінуў узорныя прыклады творчасьці для яго (прыкладам, „Сюіта для цымбальнага ансамблю", якая складаецца з чатырох частак, кажная зь якіх складае самастойны музычны вобраз).

Творчасьць кампазытараў А. Туранкова, М. Шчаглова-Куліковіча й М. Равенскага зьяўляецца далейшым этапам разьвіцьця беларускага прынцыпу ў музыцы. Падрабязны аналіз творчасьці кажнага зь іх не ўваходзіць у заданьне гэтага артыкулу. Таму аўтар дазваляе сабе абмяжавацца тут агульнымі заўвагамі. На жаль, мы ня ведаем пасьляваенны творчы й жыцьцёвы лёс Туранкова, але тое, што ён зрабіў да 1943 г. (шматлікія рамансы, творы для сымфанічнага аркестру, як „Сюіта", „Фантазія", „Рапсодыя" — усе на беларускія тэмы, опэра „Кветка шчасьця" — „Купальле" ў рэдакцыі 1943 г.) дазваляе ставіць ягонае ймя побач з кампазытарамі, якія найбліжэй падыйшлі да разьвязаньня праблемы стварэньня запраўды беларускай высокамастацкай музычнай культуры. Кажны зь іх, адпаведна сваім творчым імкненьням, выяўляў і выяўляе ў сваіх творах душу беларускага народу, ягоныя пачуцьці й думкі, адлюстроўвае ў гуках адчуваньне краявіду роднае прыроды, падчырквае ў мастацкай творчасьці асаблівасьці народнага мэлясу. Яны ймкнуцца знайсьці арганічнае адзінства мэлёдыі й гармоніі, сымфанізаваць народны музычны фальклёр, шукаюць новыя хварбы на гукавой палетры народных інструмантаў, сродкамі сучаснага эўрапейскага сымфанічнага аркестру імкнуцца перадаць іхнае гучаньне. Яны ўздымаюць беларускую мэлёдыю на высокі мастацкі ўзровень кампазытарскай тэхнікі, глыбака й удумліва падыходзяць да захаваньня ў мастацкіх творах сваеасаблівасьцяў беларускага калярыту. Творчая дзейнасьць капазытараў М. Шчаглова-Куліковіча й М. Равенскага можа служыць прыкладам няўпыннай і ўпорыстай працы над праблемай народнасьці ў музыцы, праблемай, якая стала перад імі яшчэ ў часе першых спробаў творчага засваеньня беларускай песьні.

У такіх творах М. Шчаглова-Куліковіча, як беларускія песьні для солё ў суправаджэньні сымфанічнага аркестру, сымфанічныя сюіты на беларускія тэмы, 2-я сымфонія, канцэрт для фартап'яна з аркестрам, творы для цымбальнага аркестру, опэры „Лясное возера", „Усяслаў Чарадзей"; у творах М. Равенскага, як мастацкія апрацаваньні беларускіх песьняў, вялікія харавыя творы („Шыпшына", „Слуцкія ткачыхі", „Чаму-ж мне ня пець"), „Фантазія для йскрыпкі з фартап'яна", „Сюіта на беларускія тэмы" для фартап'яна, опэра „Браніслава" — ува ўсіх гэтых творах і шмат іншых, самабытнасьць творчай індывідуальнасьці аўтараў, тэхнічная дасканаласьць, шуканьне новых прыймаў большае выразнасьці — усё гэта падпарадкваецца асноўнаму — імкненьню якнайглыбей сягнуць у самую існасьць народнага мэлясу, які складае запраўдныя „душу й цела" іхнае музыкі, незалежна ад розьніцы творчых індывідуальных рысаў.

Маючы ў актыве беларускага прафэсійнага музычнага мастацтва вынікі творчае працы нашых выдатных кампазытараў, здаецца зусім сваечасовым і патрэбным ставіць пытаньне аб праблеме беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы. Зразумелая рэч, яшчэ зарана гаварыць, што праблема гэтая ўжо разьвязаная й што мы маем неперавышальныя музычныя ўзоры беларускага нацыянальнага стылю. Шмат што яшчэ трэба зрабіць, каб мастацкая творчасьць дасканала спалучала ў сабе сучасную музычную тэхніку, высокае майстэрства формы, дынаміку разьвіцьця матар'ялу й багацьце сродкаў выражальнасьці зь нявычэрпнай арыгінальнасьцяй зь непаўторнасьцяй, нашага цудоўнага музычнага фальклёру. Але тое, што ўжо зробленае нашымі кампазытарамі — дае пэўную падставу сьцьвердзіць, што разьвязаньне гэтае праблемы знаходзіцца ў надзейных руках запраўдных мастакоў-беларусаў.

---

Панежэ ад прыраджэньня зьвяры хадзячыя ў пустыні знаюць ямы свае, рыбы плываючыя па моры й у рэках чуюць віры свае, пчолы й тым падобнае бароняць вульлёў сваіх, — тако-ж і людзі, дзе зрадзіліся й ускормленыя суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку імаюць.

ФРАНЦІШАК СКАРЫНА (1485? — 1551?)
З прамовы да біблійнай кнігі „Юдыт"

 

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

**Р. МАКСІМОВІЧ**

# *Да справы беларускай паўдзённай этнографічнай мяжы*

Пры вызначаньні паўдзённай мяжы расьсяленьня беларускага народу, пачынаючы ад картаў Рыттыха (1875 г.) ды Карскага (1904 і 1918 г. г.), розныя аўтары падаюць розна сваю „этнографічную" мяжу, апіраючы яе звычайна зусім не на этнографічных, а на іншых, найчасьцей толькі моўных зьявах.

Хоць мова звычайна бывае й вельмі важнаю азнакаю для справы разьмяжаваньня народаў, але калі возьмем нашую паўдзённую мяжу з украінцамі, як і усходнюю ды паўночна-ўсходнюю з расейцамі (як гэта асабліва зырка паказалі працы Маскоўскае Дыялектолягічнае Камісіі)[1]) дык там само моўнае вызначэньне мяжы двух народаў цяжкое дзеля тае простае прычыны, што выразнае моўнае мяжы, як нейкай вузкой лініі, тамака наагул няма, а ёсьць толькі шырокая паласа пераходных гутарак. Вось дзеля гэтага й межы беларускага народу, праводжаныя на асновах вылучна моўных даюць у такіх выпадках, у залежнасьці ад аўтара, вялікі дыяпазон хістаньняў, часта на сотні кілямэтраў.

Там, дзе моўная мяжа расплываецца на шырокім прасторы ды цяжка ўхопная нават для моваведаў, асабліва важнае значэньне, побач з моўнымі, набіраюць і іншыя адзнакі ды факты, характэрныя аднаму ці другому з двух суседніх народаў, як гістарычныя, антраполягічныя, этнографічныя.

У нас і цяпер часамі выдаюцца карты з „этнаграфічнымі" межамі, хоць і апертыя зусім не на срога этнографічных, а розных іншых зьявах. І чамусьці ніхто дагэтуль не зьвярнуў увагі на тое, што калі гутарка пра паўдзённа-заходнюю мяжу расьсяленьня беларускага народу, дык ужо ад дзесяткоў гадоў досьледы этнографаў выявілі нам мяжу апёртую заправуды на срога этнаграфічных зьявах, і толькі на іх, мяжу par excellence **этнографічную,** мяжу першараднай навуковай вагі й цікавасьці.

Мяжа гэтая была вызначаная ведамым польскім этнографам, былым прафэсарам віленскага ўнівэрсытэту, Казімерам Мошынскім, у выніку распрацаваньня сабраных дадзеных дасьледчай этнографічнай працы на мясцох. Мошынскі выявіў, што на вузкой паласе паўдзённага Палесься ды паўночнай Валыні, прабягае сканцэнтравана колькі важных лініяў, якія разьмяжоўваюць розныя для беларускай поўначы й украінскага паўдня этнографічныя зьявы.

Сам Мошынскі вызначыў дакладна прабег межаў пашырэньня розных на паўночным усходзе й паўдзённым захадзе формаў цапоў, прасьніцаў, пранікаў, ёрмаў. Адзначыў ён і паўдзённую мяжу пашырэньня дугі.[2]) Пазьней І. Фалькоўскі ды іншыя дадалі да гэтых межаў яшчэ паўдзённую мяжу пашырэньня сахі ды келіхавай формы ступы,[3]) а сам Мошынскі дадаў колькі іншых аналягічных зьяваў з галіны духовай культуры.[4])

Калі гэтак распрацаваныя лініі разьмежаваньня этнаграфічных зьяваў былі нанесеныя разам на адну карту, дык выявілася, што ўсе яны маюць адзін і той самы кірунак прабегу й што яны ідуць блізка адна аднэй на даволі вузкой паласе, якая на паўдні праходзіць уздоўж мяжы беларускага ры ўкраінскага прастору расьсяленьня, а на захадзе — уздоўж беларуска-польскага (аднак пераважна крыху на захад ад яе, на сяньня ўжо бясспрэчна польскім абшары).

Вызначаная, галоўна працамі Мошынскага, гэтак выразная сучасная этнографічная мяжа, хутка зьвярнула на сябе ўвагу ня толькі этнографаў, але й антраполягаў, гісторыкаў і, асабліва, дагісторыкаў. Сам Мошынскі, як прыхільнік геогра-

[1]) Дурново Н. Н., Соколов Н. Н., Ушаков Д. Н.: Опыт диалектологической карты русского языка в Европе с приложением очерка русской диалектологии. Труды Московской Диалектологической Комисии, Ч. V. Масква, 1915 г.

[2]) Этнографічныя разьмежаваньні Мошынскага паказаныя на зьмешчанай тут карце Чэканоўскага ўзятай з новага, паваеннага выданьня **Enciclopedia Italiana**, том XXVII, бач. 764. Рым, 1949 г. Першы раз яна друкавалася ў першым, даваенным выданьні гэтай энцыклёпэдыі.

[3]) Межавую лінію келішнай ступы, якая не паказаная на зьмешчанай гэтта карце, можна знайсьці на карце ў кніжцы — **Tadeusz Sulimirski: Najstarsze dzieje narodu polskiego. London 1945.** Бач. 23.

[4]) Глядзі **K. Moszyński: Atlas kultury ludowej w Polsce.**

фічнай школы ў этнографіі, уважаў сваю мяжу за праяву даўнейшай, а часткава яшчэ й сяньняшняй, геаграфічнай мяжы. Гэта, на ягоны пагляд, меў быць этнографічнымі зьявамі выяўлены сьлед паўдзённа-заходняга берагу тых вялізарных пушчаў і бароў, якія некалі пакрывалі паўночна-ўсходнюю частку эўрапейскага кантынэнту.

Антрапалёг Чэканоўскі ў вартыкуле напісаным у 1934 г. для Enciclopedia Italiana, зьвярнуў увагу на гэтую мяжу ўжо ня толькі як на мяжу этнографічную ды геаграфічную, але найперш як на вельмі важны сьлед старое дагістарычнае мяжы расьсяленьня народаў ды магчымую мяжу двух адменных дагістарычных культурных сьветаў. Паводле Чэканоўскага, гэтая, гэтак выразная й сяньня, антропогеографічная мяжа мела нязвычайна важнае значэньне для гісторыі ўсяго нашага кантынэнту, значэньне ня меншае, як мяжа першабытных лясоў Сярэдняй Афрыкі[5]). Аб яе, як аб цяжка пераходную натуральную перашкоду, удараліся ды няраз зьменьвалі кірунак сваёй экспансіі шмат якія народы ў часе сваіх гістарычных і дагістарычных вандровак. На ёй затрымліваліся ў сваім пашырэньні культурна-цывілізацыйныя й этнографічныя зьявы.

Польскія вучоныя адразу зрабілі дапушчэньне, што гэтая сучасная этнографічная мяжа магла-б быць праяваю старой дагістарычнай фінска-індоэўрапейскай мяжы, або пазьнейшай славяна-балцкай мяжы[6]). Чэканоўскі, Сулімірскі ды іншыя выставілі гэтую мяжу як галоўны аргумэнт у сваёй спробе давесьці памылковасьць гіпотэзы аб Палеска-Валынскай прарадзіме славянаў, паколькі гэтая мяжа выразна дзеліць Палесьсе ад Валыні. Яны намагаліся скарыстаць зь яе, як з доваду таго, што прарадзіма славянаў мела знаходзіцца на польска-вэндыйскіх прасторах паміж Віслаю ды Одраю.

Вельмі цікавы паўночна-заходні адрэзак гэтай этнографічнай мяжы. Ён агібае з паўдня нашае Падляшша, ідзе далей паміж Віслаю й Бугам (бліжэй да Віслы) на паўночны захад ды аж упіраецца ў Усходнія Прусы. Польскія аўтары па-

[5]) Jan Czekanowski: Polska-Słowianszczyzna. Perspektywy antropologiczne. Warszawa 1948. Бач. 102 — 108.

[6]) J. Czekanowski: Enciclopedia Italiana, XXVII, Бач. 764 і таксама „Polska-Słowianszczyzna",






Лініі разьмежаваньня этнаграфічных зьяваў, зарысаваныя на карце даваеннай Польшчы на аснове працаў этнографа Мошынскага й іншых. Тлумачэньні тых межавых лініяў, якія належаць беспасярэдня да памежнага беларуска-ўкраінскага прастору:

1. Лінія разьмежаваньня вужыкавых і капіцавых цапоў (на поўначы вужыкавыя).
2. Лінія разьмежаваньня лапатных і кругавых прасьніцаў (на поўначы лапатныя).
3. Лінія разьмежаваньня цяжкіх і лёгкіх пранікаў (на поўначы цяжкія).
4. Лінія разьмежаваньня кулявых і падгарляковых ёрмаў (на поўначы кулявыя).
5. Паўдзённая мяжа пашырэньня дугі.
7. Паўдзённая мяжа пашырэньня сахі.

ясьняюць, што мяжа на гэтым адрэзку — гэта ні што іншае, як старая ўсходняя мяжа расьсяленьня польскага народу. А тое, што яна прабягае больш на захад ад сяньняшняй усходняй польскай мяжы, якая цяпер ідзе ўжо ня блізка правага берагу Віслы, а левага Бугу, дык гэта толькі праява таго, што прасторы на захад ад яе, г. зв. Новае Мазоўша, гэта даволі новыя польскія асыміляцыйныя здабыткі ці то ад беларусоў, ці то ад балцкіх плямёнаў (на самай поўначы)[7].

Але нас гэтта больш цікавіць паўдзённы адрэзак мяжы Мошынскага. Польскія этнографы, археалёгі, дагісторыкі, занятыя канструкцыяй сваіх новых дагістарычных гіпотэзаў аб прарадзіме славянаў на землях сяньняшняй Польшчы, мала ўвагі зьвярталі на тое, чым-жа ёсьць гэтая мяжа ў запраўднасьці на ейным паўдзённым палескім адрэзку сяньня й пра што сьветчыць гэтая, на дзіва рэзкая, этнаграфічная мяжа у справе сучаснага разьмежаваньня беларускага ды ўкраінскага народаў.

Калі мы ўважлівей прыглядзімся на карце да прабегу ўсіх лініяў этнографічных разьмежаваньняў паўночных ад паўдзённых зьяваў на ягоным паўдзённым палескім адрэзку, дык адразу заўважым адну важную асаблівасьць: усе яны прабягаюць на поўдзень ад Прыпяці (за малым выняткам кароткай заходняй часткі лініі пашырэньня пранікаў). Другая, ня менш цікавая для нас рэч, гэта тое, што калі мы спрабуем правясьці адну сярэднюю геомэтрычную ўсіх, дык адкрыем, што лінія такая мусіла-б пайсьці прыблізна па паўдзённай мяжы Палесься з Валыньняй, якая, як ведама, ёсьць адначасна прыблізна лініяй нашай старой гістарычнай мяжы, як і сучаснай дзяржаўнай мяжы паміж Беларускай і Украінскай ССР.

Маючы на ўвеце пытаньне беларуска-украінскай нацыянальнай мяжы, трэба нам зьвярнуць далей увагу на той факт, што на сваім палескім адрэзку лініі Мошынскага дзеляць этнографічныя зьявы на паўночныя й паўдзённыя, пры гэтым паўночныя зь іх пашыраныя ня толькі на Палесьсі, але й на іншых сумежных прасторах Беларусі, а паўдзённыя на Украіне, прынамся на Валыні. З гэтага напрашваецца й просты лягічны высновак, што чым-бы ня была гэтая мяжа ў дагістарычную пару, колькі тысячаў гадоў таму, а сяньня гэтая мяжа ні што іншае, як выразная сучасная заправўдная **этнографічная беларуска-ўкраінская мяжа.**

Калі да гэтага ўсьведамім сабе яшчэ той факт, што з гэтым прабегам нашай этнографічнай паўдзённай мяжы амаль дакладна супадаюць і паўдзённая географічная мяжа Палесься, і нашыя гістарычныя межы з пары Вялікага Княства Літоўскага на паўдні, а таксама межы археалягічныя[8]) ды прыблізна й сучасныя антраполягічныя,[9]) дык нам застанецца зрабіць толькі адзіны магчымы лягічны выснаў, што гэтая зыркая этнографічная мяжа ёсьць адначасна й спрадвечнаю мяжою расьсяленьня беларускага ды ўкраінскага народаў.

А калі сяньня сустракаем некаторыя моўныя ўкраінскія асаблівасьці на поўначы ад гэтай мяжы, а беларускія на паўдні, дык гэта будзе ні што іншае, як праявы двубаковых моўных праніканьняў, і гэта пазьнейшыя, ды толькі моўныя зьявы, якія не патрапілі зацерці сабою ані зьмяніць мяжы старога этнографічнага падзелу.

Усьведамленьне факту канкрэтнага існаваньня гэтай этнографічнай мяжы тлумачыць нам і той ведамы факт, што ўкраінскія этнографы (прыкл. Хв. Вівк)[10]) праводзілі звычайна беларуска-ўкраінскую мяжу шмат далей на поўдзень, чым гэта рабілі ўкраінскія моваведы, а асабліва палітыкі. Гэта тлумачыць і тое, чаму й у ўкраінскіх апісаньнях Палесься (хаця-б у нядаўна выдадзенай „Энцыклёпэдыі Украіназнаўства") часта сустракаемся з сьцьверджаньнем ды прызнаньнем фактаў, што й спосаб пабудовы вёсак на Палесьсі, і палескія народныя ўзоры, як і іншыя мясцовыя этнографічныя асаблівасьці, адменныя ад украінскіх ды аднолькавыя зь беларускімі.

Вельмі шкада, што нязвычайна каштоўная праца ў гэтай галіне этнографа Мошынскага натрапіла ў свой час на ўсходзе на непераходную даваенную рыскую польска-савецкую дзяржаўную граніцу й таму ён ня мог дасьледваць прабегу этно-

---

[7]) J. Czekanowski: Polska-Słowianszczyzna. Бач. 107.

[8]) T. Sulimirski: Najstarsze dzieje... Бач. 20.

[9]) Глядзі J. Czekanowski: Polska-Słowianszczyzna. Антрополёгічная карта Солецкай між бачынамі 240-241.

[10]) Хведір Вівк: Студії до ураїнської етнології і етнографії. Прага, 1930 г.

графічнае мяжы далей на ўсходзе. Ці працу гэтую будзе магчы прадоўжыць ды завяршыць калі небудзь нехта іншы, асабліва пасьля тых карэнных зьменаў, якія прыносіць з сабою савецкая калектывізацыя ў вяскова-сялянскае жыцьцё — галоўную крыніцу прадметаў старавечнай этнографічнай вартасьці — рэч вельмі сумлеўная. Тым большая дзеля гэтага вартасьць той часткі працы, якую Мошынскаму ўдалося ўжо выканаць.

Праўда, і выяўленыя Мошынскім этнографічныя межы рассыпаюцца даволі шырака ў прасторы, але тымняменш усе яны выразна паказваюць на тое, што беларуска-ўкраінская этнографічная мяжа ляжыць значна на поўдзень ад Прыпяці, ды акурат там, дзе яе падаюць нам і гісторыя, і географія, і антрапалёгія.

З гэтага вось кароткага агляду відаць, што срога этнографічна-навуковыя дадзеныя Мошынскага (як і некаторых іншых) з памежнага паўдзённага абшару расьсяленьня беларускага народу маюць першарадную навуковую вагу. І таму трэба на іх зьвяртаць належную ўвагу ўсім тым, што пытаньнямі беларуска-ўкраінскай мяжы паважна, навукова займаюцца.

---

Гэтак Белая Русь абняла, злучыла й аб'яднала, азначыла й абасобіла сваю зямлю, цэлы й абшырны Край, ад Дзьвіны да Нёману й у паміжлежным пабярэжжы, ад граніцаў польскіх у Каралеўстве й пад Каронай да Пскоўскіх, Наўгародзкіх, Смаленскіх, дзе ўрэзалася ў Вялікую Русь пад самы Мажайск, на поўдзень-жа яшчэ далей па цёку рэк, асабліва Дняпра, праз Валынь і Чарнігаўшчыну, зьліваючыся паступовымі пералівамі з Малою Русяй. І па сяньня калі ўходзіш у нутро абшараў гэтага Краю, каторы нядаўна прынята называць... „Северо-Западным Русским" краем, — як не ацяжэла над ім рука апошніх стагодніх падзеяў, бачыш, чуеш і адчуваеш усюдых, што гэтка існуюць быццам, ня прыдуманыя й не зарысаваныя толькі, геаграфічныя й дзяржаўныя межы; што ў нутры іх ёсьць запраўдная апрычонасьць, якая граніцы з нутра сабе абвяла; што гэтка свая глеба, сваё племя, свой народ, своя народнасьць, некалі валадарная, хоць-бы жывыя іх твары цяперака й хаваліся ад вашага зроку ў руінах былога...

ПЕТРА БЯЗСОНАЎ, 1871 г.

---



Др. УЛ. СЯДУРА

# *Вытокі беларускага мастацтва*

**(Разьдзел з кнігі „Беларускае мастацтва")**

## ДА ПРАБЛЕМЫ РЭНЭСАНСУ Й БАРОКА Ў БЕЛАРУСІ

Беларусь, знаходзячыся ў сфэры вялікіх уплываў заходняе культуры, у поўнай мэры, няхай і пазьней за некаторыя іншыя заходнія краіны, адлюстроўвала ў сваёй культуры характэрныя рысы заходня-эўрапейскага культурнага працэсу. Гэта выявілася й у характэрных рысах рэнэсансу й барока ў беларускім малярстве 17-18 ст. ст.

Мастакі рэнэсансу імкнуліся вызваліцца ад традыцыйных канонаў аскетычнага сярэднявечча й у цэнтр свае творчасьці паставіць чалавека зь ягоным нутраным сьветам, г. з. паказаць тып чалавека, ягоны характар, а ня толькі знадворнае падабенства, што адпавядала культу ўсебакова разьвітой, гарманічнай, багатай нутраным зьместам асобы. Чалавек на абразох мастакоў рэнэсансу (адраджэньня), выглядае жывой, дзейнай асобай ува ўсёй ейнай паўніні й глыбіні. Таму асаблівая ўвага аддаецца мастакамі вывучэньню анатоміі й пэрспэктыве. І хаця-ж у іхнай творчасьці й панавалі некаторыя ўмоўнасьці, як, скажам, будова твору па кругу, пірамідзе або трыкутніку, аднак і яны ўдала вылучалі галоўнае й ад хіналі другараднае. Адвольныя суцэльныя й лёгкія формы, прыемныя, ненапружаныя , супакойныя й гарманійныя прапорцыі, агульная суладнасьць, хараство чалавека й прыроды, увага да пачуцьцяў чалавека, ягоных псыхалягічных праяваў, робяць мастацкую спадчыну мастакоў рэнэсансу неперасяжным здабыткам усяго чалавецтва й вялікім мастацкім крокам наперад раўнуючы да папярэдняй эпохі сярэднявечча.

Каб пераканацца ў гэтым, варта супыніцца на колькіх абразох беларускіх мастакоў, блізкіх да згаданых плыняў, і паспрабаваць схарактарызаваць іх. Возьмем, прыкладам, абраз „Прадзела" няведамага мастака 15-16 ст. ст., які знаходзіцца ў Наваградзкім замкавым касьцеле. Гэты тыповы абраз сярэднявечнага незямнога духова-ўзвышанага чалавека

—ідэал чалавека паводле сярэднявечных рэлігійных канонаў. Абраз падзелены на сем роўных частак. Пасярэдзіне — асоба Ісуса Хрыста — Сына Божага на традыцыйным блакітным фоне, а па бакох на шэрым фоне — сьвятыя. Усе фігуры намаляваныя роўнічна й франтальна, яны як быццам ня маюць ніякага абыйма.

I зусім іншае дае мастак беларускага рэнэсансу, прыкладам чаго можа служыць абраз няведамага беларускага мастака 17 ст. у Ліпніскім касьцеле пад назовам „Мадонна" з дзіцяткам і сьв. Янам". Гэта ўжо абраз мастака, які паводле сваіх звычаяў і густу можа быць далучаны да італьянскае флёрэнцкае школы, да школы Франчэска дэ Крыстафано Біджы, празванага Франчабіджыа.

Ня гледзячы на ўсю традыцыйнасьць некаторых прынцыпаў пабудовы й прыёмаў тэхнікі — Мадонна на ўзвышэньні, як і цэнтральная фігура на абразе „Прадзела", і ейная зьверхняя частка пададзеная франтальна дзеля большае велічнасьці й урачыстасьці ды інш., — гэта ўжо абраз новага рэнэсансавага малярства. Папершае, няма ў ім шэрага нэйтральнага фону, а заместа яго глыбіню займае запраўдная прырода беларускае Наваградчыны ці Віленшчыны зь іхнымі ўзгоркамі, дрэвамі й даляглядам, — іншымі словамі, зьявілася пэрспэктыва ў глыбіні й прасторы. Падругое, фігуры Мадонны і дзяцей тут намаляваныя ўжо ня ўроўні, яны маюць кшталт, абыймо. Апрача таго мастак імкнуўся выявіць і нутраны сьвет намаляваных. Мадонна, сьв. Ян і нават дзіцятка-Хрыстос задумёныя й заглыбленыя ў самых сабе. Відаць, дзіцё гуляла, але ягоныя рухавыя рукі спыніліся на часіну й застылі ў вясёлай гарэзьлівасьці. Усе тры фігуры быццам аб'ядналыя адзіным матывам вялікага супакою й задумёнасьці. Гэтаму адпавядае й задзіночаньне ўсіх фігураў у вадно цэлае ў выразнай геамэтрычнай фігуры — пірамідзе. Гэткая пабудова спрыяе парадку й клясычнай суладнасьці ўсіх фігураў. Гэтаму велічнаму супакою фігураў адпавядае й тыпова-беларускі краявід абраза. Зялёныя дрэўцы на фоне далёкіх блакітных узгоркаў — гэта нібы адценяваньне духоўнай чысьціні Мадонны й дзіцяці, — чыстае празрыстае блакітнае неба, мясьцінамі шэраватае, зь лёгкай невялікай хмаркай, лёгкія зарысы будынкаў направа — усё гэта спрычыняецца да таго, што абраз аж зіхціць уласьцівымі рэнэсансу хварбамі дабароднага, суладнага супакойнага й шчасьлівага жыцьця.

Яшчэ ярчэйшым узорам рэнэсансу ў Беларусі ёсьць абраз „Мадонна зь дзіцяткам" у касьцеле ў Іўі. Гэта абраз, які можна умоўна, далучыць да школы італьянскага малярства, зьвязанага зь імём мастака Лукі Лонгі (1507-1580). Тут ужо Мадонна падаецца ў пляне, штодзённым, бяз той узвышанасьці і адарванасьці ейнага вобразу ад усяго зямнога, якія мы бачым на абразе Ліпніскага касьцёлу, дзе Мадонна сумысьля прыўзьнятая над кругавідам, быццам на троне.

Іўеўская Мадонна намаляваная як звычайная маці ў звычайным гарадзкім пакоі, з дзіцём на руках. Яно гуляе, датыкаючыся матчынае рукі й ейнае вопраткі. Усе дэталі разам з падушкай пад дзіцём падпарадкаваныя мэтам жанравасьці ўсяго абраза. Праўда, й гэтта захоўваецца клясычны прынцып пабудовы — фігуры нібы ўпісаныя ў трыкутніку. Аднак, нават колеры тут менш яскравыя, больш стрымана-прыглушаныя й шэравата-халодныя, а традыцыйны блакітна-зялёны плашч на Мадонне заслонены фігурай дзіцяці паводле прынцыпу вылучэньня галоўнага й заценяваньня другараднага.

Зьяўляецца ў гэтым абразе й новы маляўнічы сродак — сьветлацень. Асьвятляючы пярэдні плян абраза, мастак пры дапамозе сьветлацені дадае жыцьця фігурам Мадонны й дзіцяці. Глыбокая рыса чалавецтва — пашана да мацярынства знайшло сваё яркае выяўленьне й у выразе нявымернае пяшчотнасьці Мадонны да дзіцяці, і ў падзіцячаму гарэзнай паставе апошняга.

Мастак, як быццам мае на ўвеце галоўна вечныя высокія чалавечыя вартасьці, а праз супакой фігураў падчырквае багацьці іхнага нутранога зьместу. Ён уздымаецца над абыдзёнасьцяй у прыгожы сьвет агульналюдзкога значаньня. У гэтых дачыненьнях ён увесь у стылі мастацтва рэнэсансу, няхай шмат якія рысы, асабліва карыстаньне светлаценем, ужо лучаць яго з барокам.

За выразнае выяўленьне стылю барока ў Беларусі ўважаецца абраз няведамага мастака „Баль у Сімана фарысея", які знаходзіўся раней у Фарным касьцеле ў Магілеве, што быў разбураны ў апошнюю вайну. Абраз малюе баль у фа-

рысея Сімана з удзелам Хрыста, якому маладая жанчына Магдалена абмывае ногі й выцірае іх сваймі косамі.

У гэтым абразе надзвычай выразна выяўлены такі прынцып барока, як дынамізм і драматызм. Абраз пабудаваны паводле барочнага прынцыпу пабудовы па авалу-кругу. Прыцягальным асяродкам гэтага кругу зьяўляецца пададзены ў срабрыста-сьветлых хварбах стол, вакол якога сядзяць госьці.

Усе яны гэтак пахіленыя або павернутыя, што ствараюць поўнае ўражаньне імклівага руху зьлева ў права. Жанчына, што ўпала да ног Хрыста, перарывае кола, чым дасягаецца супыненьне ачэй глядача на фігурах асобаў за сталом і парушэньне рытму аднастайнага руху ў замкнутым коле. Гэта дадае кампазыцыі напружанасьці, моцнага драматызму. Рух асобаў зьлева ўправа скіраваны да Хрыста — сярэдзіны абраза. Аднак ад спакойнае фігуры Хрыста дынаміка руху й псыхолягічнае нарастаньне набывае адваротны кірунак. Ад Хрыста рух разгортваецца па колу справа ўлева й сягнуўшы найвышэйшага пункту, супыняецца на групе асобаў у левым куце на заднім пляне абраза. Аднак тут-жа гэтая дынаміка ізноў ажывае ў пышнай фігуры маладой дзяўчыны, якая нясе на галаве страву. Гэтак ствараецца кампазыцыйнае жывое замкнутае кола.

У суладнасьці з гэтай дынамікай кампазыцыі й колеры каштоўных тканінаў вопраткаў — лілёвы шоўк на Магдалене, чырвоны плашч Хрыста, шэравата-жоўты з цяжкімі хвалдамі плашч і цёмназялёны хітон Сімана-фарысея — таксама гучаць магутным акордам на ўсім абразе й заміраюць у глыбіні на ягоным заднім пляне. А там ізноў перарывае абраз і імкнецца на пярэдні плян рух густых цяжкіх хмараў на шэра-халодным небе, што праглядае між імі. Гэта стварае адчуваньне імклівага руху ў глыбіню й адваротнага руху з глыбіні наперад. Галоўныя прынцыпы барока знайшлі тут нагэтулькі яркае выяўленьне, а карыстаньне сьветлаценьнем і пэрспэктывай сягнулі гэткае дасканаласьці, што згаданыя абразы можна лічыць ня толькі беларускім, але й агульна-сусьветным дасягненьнем. Яны зьяўляюцца каштоўнымі помнікамі, якія нельга памінуць у гісторыі ня толькі беларускага, але й сусьветнага малярства.



## РАЗЬБЯРСТВА

У старадаўным мастацтве Беларусі вялікае месца займала й разьбярства. Яшчэ ў паганскія часы, калі з дрэва выразаліся постаці розных багоў, сярод беларусаў перадаваліся ад аднаго пакаленьня да другога ўмеласьць ды традыцыі разьбы па дрэве. На вялікі жаль творы разьбяроў па дрэве з часоў паганства загінулі й толькі нешматлікія каменныя фігуры, захаваныя сярод балотаў і лясоў упартымі пасьлядоўцамі паганства, датрывалі да нашых часоў. Хрысьціянства ня толькі панішчыла ўсе, што да яго існавалі, паганскія культавыя вырабы з дрэва й каменьня, але й наагул запыніла традыцыйнае разьвіцьцё разьбы, або надало яму новы характар. Разнастайнасьць постацяў паганскіх багоў замянілася кананічнымі хрысьціянскімі сьвятымі. Разьба сталася прыкладным мастацтвам упрыгожаньня й перайшла, галоўным чынам, у царкву. Тут яно й разьвівалася побач з разьвіцьцём малярства й архітэктуры.

Нажаль узоры беларускай разьбы зь першых стагодзьдзяў хрысьціянства ў нас незахаваліся. Першыя ведамыя памяткі маем толькі з XIV-XV ст. ст. Да іх належаць цікавыя фігуры Міколы Мажайскага, Міколы Пскоўскага й Параскевы-Пятніцы.

Статуя Міколы Мажайскага паходзіць з 20-х гадоў XIV ст. Падаўгаватая галава з даўгой барадой, іконаграфічна далёкая ад бізантыйскага тыпу сьв. Міколы. Мае параболічны профіль, лёгкую, застылую ўсьмешку й выпучаныя, з паднятымі кутамі век, вочы. Рысы тыповыя для нямецкай скульптуры XIII ст. раманскага стылю й беларускай скульптуры таго-ж часу. Сьв. Мікола апрануты ў япіскапскі убор з ускінутымі рукавамі. Праваю рукою трымае меч, а левай горад Мажайск. Культ сьв. Міколы пераняты з Захаду Эўропы. У Беларусі папулярная была ў свой час лягенда „Скітаніі сьв. Міколы".

Статуя Міколы Пскоўскага была занесеная ў Пскоў зь Беларусі ў 1540 г. Перад гэтым у Пскове ніякіх фігураў сьв. Міколы, ані Параскевы-Пятніцы ня было. Толькі пасьля апрабацыі архіяпіскапа наўгародзкага Макарыя статуя была прызнаная сьвятой. У левай руцэ статуя трымае нешта падобнае



**МІКОЛА МАЖАЙСКІ**
**Статуя з 20-х гадоў XIV ст.**



**МІКОЛА ПСКОЎСКІ**
**Статуя з XV-XVI ст. Галава папраўляная ў XVII ст.**

да замку з шатравой царквой пасярэдзіне ды з групаю баштаў навокала, перакрытых шатрамі. Галава статуі была папраўляная ў XVII ст.

Разам зь фігураю сьв.Міколы была прынесеная ў Пскоў й статуя сьв. Параскевы-Пятніцы з крыжом у руках. Параскева, гэта стрэчная сястра Афрасіні Полацкай. Яна выехала з Полацку разам з сьв. Афрасіняй, але паехала не ў Ерузалім, як сястра, а ў Рым, дзе стала каталічкаю й таму праваслаў'е знарок яе замаўчвае. Усе іншыя захаваныя фігуры сьв. Параскевы больш позняга часу.

17 і 18 ст. ст. былі часам асаблівага росквіту разьбярства. На працягу згаданых стагодзьдзяў у Беларусі, вылучыліся былі асабліва высокія паводле ўзроўню цэнтры разьбярскай культуры — Слуцак, Магілеў і Віцебск.

У Слуцку найбольшую дасканаласьць асягнула разьба дэкаратыўная. Хараство выразанага іканастасу царквы сьв. Юрага задзіўляла навет вялікіх знаўцаў мастацтва. Размаляваны мясцовымі мастакамі, нязвычайна ўдала упрыгожаны гарманійна разьмяркаваным арнамэнтам, ён зьяўляецца ўзорам усіх беларускіх іканастасаў.



Вельмі высокія ўзоры дэкаратыўнай разьбы 18-га ст. дае беларуская Смаленшчына. У ейных цэрквах захаваліся выдатныя пэрлы, прыкладам ведамы іканастас у Смаленскім Саборы, выкананы ў 1730-40 г. разьбярамі Трусіцкім, Аліцкім і Масьціцкім. Яны-ж, як і іншыя разьбяры, упрыгожылі колькі іканастасаў і ў іншых драўляных і каменных гарадзкіх ды вясковых цэрквах.

Беларускае дэкаратыўнае разьбярства адрозьніваецца багацьцем арнамэнтальных матываў і своеасаблівасьцяй кампазыцыйнай распрацоўкі. Розныя канструкцыйныя формы ў выглядзе рамак, калонак, аўтарных дзьвераў і суцэльных іканастасаў вельмі узбагачваў і ажыўляў агульны выгляд нашых сьвятыняў.

Арнамэнт беларускага дэкаратыўнага разьбярства — пераважна расьцінны, часам дапоўнены чалавечымі фігурамі. Трэба гэтта зацеміць, што арнамэнтные матывы, хай апрацаваныя з частковым выкарыстаньнем рэнэсансавых формаў і формаў барока, заўсёды вырашаюцца ў тыповых стылістычных выявах самастойнага беларускага характару. Прыгожая расхварбоўка з пазалотай, сярэбраньнем і кволай паліхроміяй у сьветлых і мяккіх колерах дае нашаму выразанаму арнамэнту своеасаблівую характэрнасьць.

Беларускае арнамэнтальнае разьбярства дасягае ў 17 ст. гэткае вышыні, што прызнаецца за высокае мастацтва ў шмат якіх суседніх краінах. Гэтак, пасьля вайны з Масквой, у выніку акупацыі Усходняй Беларусі маскоўскім войскам, у 2 палове 17 ст. беларускія майстры-маляры разам з разьбярамі едуць у Маскоўшчыну й заносяць туды характэрны беларускі тып дэкаратыўнай разьбы па дрэве. Як асобны стылістычны кірунак мастацтва, разьбярства там хутка распаўсюджваецца. Цікава, што ў маскоўскіх дакумантах 17 ст. і пазьнейшых яно гэтак і было ведамае пад назваю „белорусская резь". Прыкладам, у інвентарным апісаньні Краснахолменскага Нікалаеўскага манастыра Цьверскай губерні (1860 г.) гаворыцца, што для галоўнага аўтара пабудаванай у 1675 г. драўлянай царквы, нейкі Сямён Забароўскі „дал двери царские, сень и сто-

лицы резные, по полименту золочены, резь белорусская сквозная, а золочены сусальным золотом и серебром на гладко".[1])

Разьбярства, як мастацтва, перанесенае ў Маскву зь Беларусі, самперш выяўляецца тут выключна на дрэве й галоўна ў іканастасах ці хатніх ды царкоўных рэчах. У канцы 17 ст. беларускія майстры ёсьць ужо й сярод разьбяроў маскоўскай „Оружейной палаты" й у іншых майстроўнях. Згаданая „белорусская резь" пачынае рабіць вялікі стылістычны ўплыў і на вырабы іншых галінаў дэкаратыўнага мастацтва ўсяе Маскоўшчыны. Ягоныя формы пераймаюць і кераміка, і нутраныя й знадворныя ўпрыгожаньні архітэктурных помнікаў, і разьба на камені й інш. Выяўляецца гэта як на ўзорах кафлявых барэльефаў, гэтак і ў маялікавых іканастасах Новаерусалімскага сабору працы залатара й разьбяра Пётры Заборскага. Гэтыя-ж формы выяўляюцца, прыкладам, у знадворных упрыгожаньнях „Крутицкого теремка" ў Маскве, і ў „Царских палатах" Сергіяўскай Лаўры, і ў вокнах Прэабражэнскай царквы Савіна-Старажоўскага манастыра 1693 г.[2]) і ў іншых помніках.

Далейшае разьвіцьцё гэтых формаў пераносіць іх на каменнае разьбярства пры апрацоўцы фасадаў як у царкоўным, гэтак і грамадзкім будаўніцтве Масквы, ды й ня толькі яе. Бо й далёкая, лясная, сьцюдзёная Архангельшчына й мяккая стэповая Украіна пераняла гэты беларускі стыль дэкаратыўнага разьбярства. І ўсюды доўга ўтрымліваўся ён і толькі напярэдадні 19 ст. перайшоў тут у новы закончаны дэкаратыўны стыль.

Скульптурнае разьбярства ў старажытнай Беларусі разьвілося было пераважна ў Віцебску й Магілеве, дзе побач з узорамі дэкаратыўнага мастацтва доўга захоўваліся помнікі скульптуры. Пад уплывам беларускай скульптуры было разьбярства фігураў з дрэва й у суседніх зь Беларусяй землях, прыкладам, на Арлоўшчыне, дзе знаходзілі надта блізкую да беларускага тыпу драўляную скульптуру.

---

[1]) „История русского искусства" под ред. І. Грабара, выпуск 8, Стр. 417.

[2]) Згаданая „История русского искусства", выпуск 8, Стр. 426.



Пашыранае было разьбярства з дрэва і ў сучаснай Заходняй Беларусі, дзе таксама можна знайсьці фігуры, выразаныя з аднаго кавалка дрэва, часта з паліхромнай ахварбоўкай ці з пазалотай або сярэбраньнем. Як і ў малярстве, фігуры людзей выконваюцца тут падвойным спосабам. Адзін зь іх выяўляецца ў стылізацыі формаў, хоць і прытрымліваецца праўдзівасьці й рэальнасьці. Другі выходзіць з натуры і надае чалавечай постаці чыста натуральны выгляд. Аднак і ў першым і ў другім выпадку разьбяр кіруецца характэрным для ўсяго беларускага разьбярскага мастацтва прынцыпам экспрэсыўнасьці. Разам зь некаторымі рысамі велічнасьці, манумэнтальнасьці гэтая скульптура перадае людзей з выразнымі экспрэсыўнымі выявамі іхнае жыцьцёвасьці, з чыста мастацкай рухавасьцю усяе фігуры ці твару. Ахварбоўка паводле запраўднага падабенства да колеру валасоў, скуры, сьветлаценяў на твары й вопратцы таксама служыць гэтым мэтам.

Сваім рэалізмам беларускае разьбярства 18 ст. набліжаецца (як і нашае малярства) да ўзораў нямецкай скульптурнай разьбы па дрэву 16 ст. Але й тут выразна выяўляюцца самперш свае самабытныя беларускія рысы. Праз рэалістычнасьць і экспрэсію ўсіх фігураў сюды прасяклі чыста беларускія этнаграфічныя народныя рысы й надалі гэтай скульптуры нацыянальны характар. Праз яе манумэнтальна выявіўся беларускі нацыянальны характар і тып, дарма што большыня фігураў была рэлігійна-біблійнага зьместу.

Дзеля гэтага такія скульптурныя ўзоры беларускага разьбярства, як „Укрыжаваньне" — 17 ст., „Тайная вячэра", „Масей" і „Давід" — 18 ст., „Фігура жанчыны ў чырваным" — 18 ст., „Укрыжаваньне" — 18 ст., „Мужчынская галава" — 18 ст., „Архістраціг Міхаіл у змаганьні з д'яблам" — 18 ст., „Фігура жанчыны ў зялёнай вопратцы з чырвоным пакрыцьцём і кніжкай" — 18 ст. ды іншыя экспанаты Віцебскага й Менскага гістарычных музэяў павінны дакладна вывучацца й уважліва ахоўвацца. Мастацкія зборы Менскага музэю былі вывезеныя перад эвакуацыяй немцамі Менску ў Нямеччыну. Пасьля вайны, дзякуючы амэрыканскай апецы, гэтыя скарбы былі зьвернутыя назад у Менск. Горшым быў лёс віцебскіх мастацкіх скарбаў. У часе вайсковых падзеяў загінула у вагні

пажараў памешканьне Віцебскага музэю. Няведама, ці былі вывезеныя саветамі мастацкія зборы гэтага музэю, ці яны згарэлі.

У Баранавіцкім музэі было таксама колькі высокіх узораў нашага старадаўнага разьбярства па дрэве. Гэта, самперш фігуры Сьв. Пётры й Паўлы, — праца нядзьведзіцкага майстры з 1600 г., фігура Хрыста зь ягнём з 1700 г., ды найстарэйшая — фігура Сьв. Яна з даху царквы ў Ішкольцу з 1500 г. Усе гэтыя скульптуры найлепш сьцьвярджаюць нашыя абагульненьні ў дачыненьні ад стылевых асаблівасьцяў беларускага разьбярства. Рэальны й натуралістычны падыход народных майстроў да разьбы фігураў сьвятых ператварае іх тыповыя вобразы беларускіх сялянаў з жывымі ачмі ды добра адценяванымі тварамі. Гэта ўжо поўная перамога рэалізму над стылізатарствам, хоць апошняе тут яшчэ прабавала часам сябе выявіць. Адылі рэльефныя вобразы сьвятых-схімнікаў тут сталі тыпова-беларускімі сьвятымі. Народ выяўляў іх паводле свайго разуменьня й ўяўленьня.

## ГРАФІКА Й ІНШЫЯ ГАЛІНЫ МАСТАЦТВА

Беларуская графіка пачынае сваё развіцьцё ад пачатку кніжніцтва ў Беларусі. Яшчэ ў старадаўныя часы, калі разам з хрысьціянствам пашыралася перапісваньне кніжок, няведамыя беларускія мастакі ўпрыгожвалі сваімі тонкімі паводле тэхнікі й колеру мініятурамі, загалоўнымі літарамі, устаўкамі й канцоўкамі рукапісныя эвангельлі, акафісты, васьмігласьнікі й іншыя кнігі. З гэтага гледзішча шырака, на ўвесь свет ведамае Тураўскае эвангельле 11 ст., Мсьціслаўскае эвангельле 14 ст., Віленскае эвангельле 16 ст. й іншыя. Вытокі беларускае графікі ляжаць часткава ў Заходняй Эўропе, Нямеччыне й Італіі, асабліва-ж на славянскім Захадзе — у Чэхіі.

Нязвычайна высокага ўзроўню дасягнула беларуская графіка ў выданьнях першага беларускага друкара др. Францішка Скарыны. У ягонай „Бібліі", „Псалтыру", „Апостале" й іншых выданьнях было надрукавана шмат высокамастацкіх



гравюраў.[3]) Стыль скарынінскіх гравюраў рэалістычны з моцнай акцэнтацыяй формаў. Асабліва вылучаецца партрэт самога Скарыны ў выданай ім у Празе „Бібліі" (1517-1519 г. г.). Гэта лепшая гравюра сярод вялікай колькасьці іншых і паводле мастацкай дасканаласьці рысунку й кампазыцыйнага



**БОЙКА ЗА СМАЛЕНСК**
**Мініятура з Радзівілаўскага летапісу канца XV ст.**

разьмяркаваньня дэталяў зьяўляецца ўзорам гравюрнага мастацтва ўзвышаючыся да лепшых узораў нямецкай і чэскай гравюры таго часу. Скарынін партрэт выкананы свабодным штрыхом з удала выяўленай дасканалай формай. Постаць Скарыны выкананая ў ромбе. Усе дэталі, іхная пабудова, сьвятло й цені накіроўваюць увагу гледача да партрэту Скарыны, ягонай рукі якая трымае пяро над кнігай. Пад поста-

[3]) М. Шчакаціхін „Дрэварыты і арнамэнт у выданьнях Скарыны", „Наш Край" № 1(4), 1926, выданьне ЦБ Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры і „Гравюры і ўпрыгожаньні ў выданьнях Франціска Скарыны" ў зборніку „Чатырохсотгодзьдзе беларускага друку", выданьне Інстытуту Беларускай Культуры, Менск, 1926 г.



**ЗАСТАУКІ З СКАРЫНІНСКАЙ БІБЛІІ (1517 — 1519)**






**ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ Прыклад беларускай гравюры другой палавіны XVI ст.**

цяй арнамэнтаваны беларускім узорам ручнік з гэрбам Скарыны, які ён звычайна ставіў на ўсіх сваіх выданьнях: сонца й маладзік. Літары скарынінскіх выданьняў паводле багацьця рысунку, прыгожасьці й разнастайнасьці стаяць вышэй, чымся шмат якія заходня-эўрапейскія выданьні.

Друкарскія дасягненьні і ўзоры Скарыны насьлядавалі пазьней шмат якія друкары Усходу і Захаду.

Паміж вялікай колькасьці старых беларускіх гравюраў у беларускім друку 16, 17 і 18 ст. ст. вылучаюцца гравюрныя працы магілеўскае школы, асабліва творы выдатнага магілеўскага гравера Васіля Вашчанкі.[4]) Ён працаваў па дрэву ў Магілеве з 1698 па 1730 г. і зьмясьціў у розных беларускіх выданьнях больш за 20 мастацкіх гравюраў. Пад усімі імі ёсьць ягонае імя й прозьвішча або ініцыялы. Сярод ягоных працаў трэба назваць загалоўны ліст да „Дыоптры" (1698) і „Васьмигласника" (1730, 1754), загалоўныя лісты да „Неба новага" і „Перлы многоценные" (1699), загалоўны ліст да „Книги жития святых" (1702) і др. Гравюры Вашчанкі дасканалыя й своеасаблівыя паводле тэхнікі выкананьня ды выразнасьці рысунку. Ягоныя гравюры перадаюць паступовы пераход ад ценю да сьвятла, ад чорнага да белага колеру. Гэта выдатнейшы беларускі гравер. Разам зь ім працаваў граверам і ягоны родзіч Максім Вашчанка,[5]) друкар і гравер па медзі. Ягоныя гравюры нагадваюць гравюры Васіля Вашчанкі, але з большым уплывам гравюры нямецкай.

Там-жа працавалі й выдатны гравер — Федар Ангілейка, які ўпрыгожыў сваімі гравюрамі „Часаслов" і іншыя кнігі, і Апанас Вашчанка, і іншыя граверы. У той час на Беларусі працавала больш 50 гравераў, якія спрыялі бурнаму ўздыму беларускага гравернага мастацтва. Для прыкладу можна назваць характэрныя для гравернага мастацтва Беларусі помнікі ў друкаваных выданьнях „Апостол" 1657 г. — выданьне Спірыдона Собаля, высокамастацкую гравюру па дрэву „Багародзіца з целам Хрыста на каленях" (1740) работы Паўла Комара, супрасьлеўскага гравера, і інш.

На высокім тэхнічным і мастацкім узроўні была гравюра й у Нясьвіжы, пры замку Радзівілаў, дзе рабіліся партрэты на медзі ўсіх тых, што паходзілі з Радзівілавага роду й экслібрысы для княжага кнігасховішча. Партрэтысты — гравер Г. Лейбовіч (1700-1770) награвіраваў на 150 мядзяных лістох іканаграфію ўсяго дому Радзівілаў і зрабіў колькі экслібрысаў для княжае бібліятэкі.

Наагул неабходна адзначыць, што амаль пры ўсіх большых друкарнях Беларусі разьвівалася й граверная справа, арганізоўваліся граверныя школы. Гэтак было ў Магілеве, Супрасьлі, Вільні й інш. гарадох. Развіцьцё гравюры зрабіла вялікі ўплыў і на малярства, як ужо прыгадвалася вышэй. Пад ейным ўплывам заходня-эўрапейскія мастацкія формы лягчэй прасякалі ў беларускае мастацтва наагул.

---

[4]) М. Шчакаціхін, Васіль Вашчанка — магілеўскі гравер канца 17 і пачатку 18 ст." (асобнымі адбіткамі з „Навуковага зборніка" Інстытуту Беларускай Культуры, Менск, 1925 г., у сьвет ня выпушчанага).

[5]) Глядзеце „Подробный словарь русских граверов 16-17 ст. ст.,", Петербург, 1895 г.

У 19 ст. беларуская графіка, як сьведама-нацыянальная, занепадае. І толькі з пачаткам адраджэнскага руху ў пачатку 20 ст. зноў робяцца спробы адрадзіць і традыцыі мастацтва беларускае графікі. Першым гэткім графікам найноўшых часоў быў беларускі паэта й пісьменьнік Карусь Каганец (Казімер Кастравіцкі), які памёр у 1918 годзе й да сяньняшняга дня належна як мастак і графік не ацэнены. Ягоныя абразы тушай, войстрые палітычныя карыкатуры й іншыя мастацкія рысункі выяўляюць у ім праўдзівага мастака, першага сьведамага беларускага мастака-адраджэнца. Ягоныя мастацкія графічныя творы чакаюць яшчэ, аднак, свайго дасьледніка й камэнтатара.

За апошнія 25 гадоў зьявілася шмат новых беларускіх графікаў. Пераважна, іхная праца была ў цеснай сувязі з друкарскай дзейнасьцяй беларускага выдавецтва. Беларускія кнігі ілюстраваліся ня толькі спэцыялістымі-графікамі, як мастакі Кашкель, Гуткоўскі й інш., але й ведамымі беларускімі мастакамі-малярамі, як В. Волкаў, Гэмбіцкі, Пашкевіч, Ахрэмчык, Філіповіч і інш.

Сярод сучасных беларускіх графікаў асабліва вылучаецца графік-мастак А. Тычына. Ягоныя графічныя працы заўсёды арыгінальныя паводле задумы, строгія формаю й выразныя паводле тэхнікі выкананьня. Мастаком А. Тычынай аформлена шмат кніжак выданьня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва ў Менску, ім-жа нарысаваныя й лепшыя ўзоры беларускага эксlібрыса.

Беларускі экслібрыс, да рэчы, сустракаецца яшчэ ў 16 ст. ў грашовых знакох канцлера Вялікага Княства Літоўскага — Рыгора Хадкевіча, у кніжных знаках „Віленскага Вайсковага Збору", а ў XIX ст. у кнігах Эпімах-Шыпілы й інш. беларускіх дзеячоў.

У нашыя часы кніжныя знакі рабіліся для беларускіх зьбіральнікаў кніжок і вучоных І. Фурмана, Брэжкі, М. Касьпяровіча, М. Шчакаціхіна (праца А. Тычыны) й інш. Найбольш экслібрысаў зрабілі мастакі Мінін у Віцебску й А. Тычына[6]) ў Менску. Рабіў экслібрысы й іншы досыць знаны беларускі графік у Менску, Гуткоўскі (для ЦБ Краязнаўства) і мастак-скульптар Грубэ (для Бараноўскага).

Пазьней беларускіх экслібрысаў ужо налічвалася колькі дзесяткаў, а цяпер іх, хіба колькі сотняў.

---

[6]) Ал. Шлюбскі „Exlibrysy А. Тычыны", Менск, 1928. Выданьне Беларускага Таварыства Бібліяфілаў.





**ПАНАС НА НЕБЕ**

**Узор сучаснай беларускай графікі. Праца віцебскага мастака зь Першай Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі 1925 г. у Менску. Пазьней гэтая праца была крытыкаваная як „нацдэмаўская".**

У старадаўныя часы Беларусь ведала высокія ўзоры ювэлірнага мастацтва. Гэтак увайшоў у гісторыю Беларусі й стаўся ведамы крыж Сьв. Афрасіні Полацкай. Крыж гэты перахоўваўся ў Полацку да нашых дзён. Зроблены ён быў з золата й аздоблены дарагімі каменьнямі з 20 мініятурнымі, з эмалі, абразкамі. На Крыжы быў выбіты надпіс на старой беларускай мове. Зрабіў яго полацкі залатар Лазар Богша на заказ сьв. Афрасіні ў 1161 г. Крыж Афрасіні Полацкай так прыгожа аздоблены каменьнямі й абразкамі, што мала мае сабе роўных нават сярод найлепшых вырабаў ювэлірнага бізантыйскага й заходня-эўрапейскага мастацтва.



**КРЫЖ СЬВЯТОЙ АФРАСІНІ ПОЛАЦКАЙ з 1161 г.**
**Работа полацкага залатара ЛАЗАРА БОГШЫ. Надпіс на крыжы канчаецца словамі: „Госпадзе, памажы рабу свайму Лазару, празыванаму Богшай, які зрабіў гэты крыж царкве Сьвятога Спаса й Афрасіні".**

Пазьней, праз колькі стагодзьдзяў, пад уплывам заходня-эўрапейскіх формаў, ювэлірнае мастацтва на Беларусі дало шмат узораў тонкага майстроўства, вельмі цікавых для вывучэньня прыкладнога мастацтва. Недахоп некаторых матар'ялаў не дае цяпер магчымасьці даць яму належную ацэну й характарыстыку. Аднак, можна з пэўнасьцяй сьцьвердзіць існаваньне ў 17 і 18 ст. ст. у Вільні, Магілеве, Віцебску, Менску й іншых гарадох адмысловых цэхаў залатароў майстроў-ювэліраў. Іхныя вырабы гавораць пра сувязь зь нямецкімі асяродзьдзямі ювэлірнага мастацтва, асабліва Данцыгам, аднак, яны ў бальшыні самастойныя як у кампазыцыі, гэтак і ў трактаваньні арнаманту. І будучыня яшчэ павінна будзе сказаць сваё слова пра беларускі нацыянальны стыль ювэлірнага мастацтва.



# *Аляксандра Ружанец-Ружанцоў*

**Да 60-годзьдзя жыцьця**



У жнівені 1953 г. споўнілася 60 гадоў працавітага жыцьця выдатнага бібліёграфа Аляксандры Ружанец-Ружанцова, ведамага ў свой час беларускага грамадзкага працаўніка ў Коўні, падпалкоўніка Беларускай Краёвай Абароны, сябры Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Радзіўся Аляксандра Ружанцоў 12 жніўня ў Вязьме. Ад стагодзьдзяў Ружанцовы жылі па землях Смаленшчыны, Магілеўшчыны й Віцебшчыны. Па сканчэньні гімназіі ў Вязьме ў 1911 г. ён паступае на гістарычна-філязафічны факультэт Маскоўскага Імпэратарскага Унівэрсытэту, зь якога ў восені 1914 г. пераходзіць у Аляксеяўскую Вайсковую Школу ў той самай Маскве.

Пра Беларусь А. Ружанцоў першы раз прачытаў у расейскай географіі Меча ў школьныя гады, дзе была надрукаваная й народная песьня, якая захавалася ў ягонай памяці й па сяньня:

Кукавала зязюля ў садочку
Прылажыўшы галовачку к лісточку.

Любоў да роднай зямлі й ейнай прошласьці А. Ружанцову ў школьныя яшчэ гады прышчапілі гімназіяльныя настаўнікі, пераважна „западноросcы". Зь першымі нацыянальна сьведамымі беларусамі ён сустрэўся пазьней у царскай арміі, калі служыў ад 1914 да 1918 г. на нямецкім фронце ў пяхотным Канатопскім палку, які да вайны стаяў у Смаленску ды папаўняўся беларусамі.

Падчас першай сусьветнай вайны яму давялося пазнаёміцца бліжэй з Горадзеншчынай, Сувальшчынай, а таксама зь Летувай, Латвіяй, Эстоніяй, дзе дачакаў канца вайны й адкуль вярнуўся ў Смаленск. Быў змабілізаваны ў чырвоную армію, гле хутка яе кінуў.

З пачаткам 1919 г. А. Ружанцоў, ужо як маёр, у беларускім батальёне, які разам зь лятувіскімі аддзеламі знаходзіцца на супроцьбальшавіцкім фронце. У баі з бальшавікамі пад Дзьвінскам атрымлівае Крыж Пагоні. На фронце-ж у 1920 г. ён рэдагуе беларускі жаўнерскі часапіс „Варта Бацькаўшчыны", за які сядзіць 49 дзён на лятувіскім адвахце ды трапляе пад суд.

У 1921-24 г. г. А. Ружанцоў мае сталую сувязь з экзыльным урадам БНР. Асабліва блізкі яму быў В. Лас-

тоўскі. Пазьней доўгія гады бяз ніякога даручэньня з боку Ураду БНР, ані бяз афіцыяльнага прызнаньня ўладамі Летувы, ён практычна спаўняе функцыю беларускага консуля ў Коўні, заступаючы перад лятувіскімі ўладамі справы й патрэбы здэмабілізаваных жаўнераў беларускіх аддзелаў. Было іх тады ў Летуве больш 300.

Адначасна А. Ружанцоў супрацоўнічае ў часапісах „Вольны Сьцяг" і „Крывіч", піша туды артыкулы й рэцэнзіі (1922-26). Прабуе й свайго паэтычнага таленту пад псэўдонімам Алесь Смаленец. Ягоныя вершы друкуюцца ў віленскіх „Беларускіх Ведамасьцях" ды „Крыніцы". У лятувіскім вайсковым музэі ў Коўні ён памагаў закласьці аддзел беларускіх вайсковых частак у Летуве й наглядаў за ім.

А. Ружанцоў утрымлівае адначасна й жывую сувязь зь беларускімі асяродкамі Вільні й сталічнага Менску. Ён мае нават прыкрасьці ад лятувіскіх палітычных кругоў за ўтрымліваньне перапіскі з Шчакаціхіным ды Шлюбскім у справе абмены выданьнямі ды экслібрысамі.

Беларуская культурна-нацыянальная праца ў Коўні, асабліва з выездам В. Ластоўскага, значна глохне. А тымчасам у кажнай галіне культурна-дзяржаўнага будаўніцтва незалежнай Летувы вельмі патрэбныя здольныя працаўнікі. І А. Ружанцоў уцягіваецца ў гэтую працу з усім свомым сабе энтузіязмам і ўпорыстай працавітасьцяй. Да гэтага зь лятувіскім народам завязваюцца й цясьнейшыя сямейныя вузлы. У трыццатых гадох ён ужо неад'емлівая частка лятувіскага культурнага жыцьця ў Коўні.

Становішча шэфа Цэнтральнай Вайсковай Бібліятэкі ў Коўні займае ён ад 1921 да 1940 г. У 1928 г. стае кіраўніком справаводам Бібліёграфічнага Інстытуту Летувы. Ружанцоў таксама тэхнічны рэдактар лятувіскага бібліяграфічнага часапісу Bibliografijos Žinios.

Працуе ён шмат і над бібліёграфіяй Вялікага Княства Літоўскага, пераглядае каля 70.000 справаў у архіве ковенскай гарадзкой думы, ды нямала іх і апісаў. Выдае каля 20 кніжак і драбнейшых працаў друкам, а між імі вялікі каталёг Цэнтральнай Вайсковай Бібліятэкі (больш 1000 бач.). Пакладае ён не малыя заслугі й у арганізацыі пажарнай аховы Летувы й Коўні.

Другая сусьветная вайна перакідае А. Ружанцова ў Вільню. Гэтка нейкі час ён працуе ў Беларускім Нацыянальным Камітэце; ён сябра Беларускага Навуковага Таварыства, у якім чытае рэфэраты. У 1944-45 г. г. ён працуе разам з генэрал-маёрам К. Езавітавым у штабе беларускіх вайсковых аддзелаў.

З прычыны цяжкой кантузіі ў выніку бамбардаваньня ў красавіку 1945 г. звольнены на двумесячную пабыўку, знаходзіць сваю сям'ю й пасяліўся ў Вюртэмбэргу. Тутка за 22 дні й прыходзіць канец вайны.

З канцом вайны А. Ружанцоў сярод ДП у Баварыі й там адразу-ж бярэцца за працу, якая ўжо стала галоўнаю корцяю й заняткам усяго ягонага жыцьця: бібліёграфія лятувіскага друку. У 1945 г. ён арганізуе Лятувіскую Бібліёграфічную Службу. Ад 1948 г. сам рэдагуе й выдае часапіс лятувіскай замежнай бібліяграфіі Knygu Lentyna.

У 1949 г. пераяжджае ў ЗДА, працуе тутка ў харчовай краме, а вечарам знаходзе час і сілы вясьці далей бібліяграфічную працу. Ад 1951 г. лятувіскае грамадзянства здабываецца на матар'яльную помач на выданьне часапісу друкам.

Хоць бібліяграфія лятувіскага друку й стае галоўным жыцьцёвым клопатам А. Ружанцова ды ён усё-ж знайходзіць час і на працу для свайго беларускага народу. Яшчэ ў Нямеччыне ён перакладае на лятувіскую мову й выдае кніжачкі: Ю. Віцьбіч — „Францішак Скарына" і В. Ластоўскі — „Бяздоннае багацьце" (1947). Падае ў лятувіскія часапісы ведамкі зь беларускага культурнага жыцьця.

Ужо ў ЗДА А. Ружанцоў апрацаваў беларусаведны матар'ял для 1-га тому лятувіскай энцыклёпэдыі. На просьбу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва піша ўспаміны зь беларускага жыцьця й грамадзкай працы ў Коўні.

Успаміны гэтыя абыймаюць цікавы, важны й мала ў нас знаны эпізод беларускай культурнай і палітычнай працы ў Летуве ў міжваенныя гады, асабліва ў першую іх палову. Яны даюць ня мала вестак пра палітычную, вайсковую й дыплёматычную дзейнасьць на абшары Летувы дзеячоў і органаў экзыльнага Ураду БНР. Яны асьвятляюць гісторыю арганізацыі, акцыі й дэмабілізацыі тых беларускіх вайсковых аддзелаў БНР якія супольна зь летувіскімі вайсковымі фармацыямі змагаліся супроць бальшавікоў і палякоў. У іх цэнныя весткі пра нацыянальную працу сярод беларускай меншыні ў Летуве, пра працу выдавецкую ў Коўні, і асабліва цэнныя ведамкі пра гады найбольш плоднай працы ў Коўні нашага выдатнага навукова-літаратурнага й палітычна-грамадзкага дзеяча Вацлава Ластоўскага да пары ягонага пераезду з Коўні ў Менск.

Адзначаючы 60-годзьдзе жыцьця А. Ружанцова лятувіская прэса з прызнаньнем ацаніла ягоную вялікую ахвярную працу ў галіне лятувіскай бібліяграфіі й падчыркнула асаблівую ўдзячнасьць лятувіскага грамадзянства А. Ружанцову таму, што ён сам беларус, у якога „ніколі ня згасла шчырае жаданьне пабачыць вольную, незалежную Беларусь" (Naujienos, № 207, 1953).

Адцемліваючы 60-годзьдзе працавітага жыцьця выдатнага бібліёграфа, трэба прызнаць, што свае здольнасьці й сваю бязьмежную працавітасьць А. Ружанцоў аддаў галоўна для дабра й карысьці той краіны, якая ў выніку падзеяў першай сусьветнай вайны стала для яго другою бацькаўшчынай. З здаваленьнем трэба аднак падчыркнуць, што сваёю працаю там прынёс ён толькі гонар свайму беларускаму імені й пашану да сябе нашых балцкіх суседзяў.

З другога боку пры кажнай нагодзе намагаўся ён працаваць і для дабра свайго беларускага народу ў галінах грамадзкай, вайсковай, літаратурнай, навуковай. І таму з нагоды 60-годзьдзя жыцьця й беларускае грамадзянства можа скласьці А. Ружанец-Ружанцову свае шчырыя пажаданьні словамі аднаго лятувіскага часапісу, каб „дачакаўся тых дзён, калі вольныя Летува й Беларусь змогуць падаць сабе пасяброўску суседзкую руку".

**В. Т.**

# З А Ц Е М К І

## ДА ПЫТАНЬНЯ WHITERUTHENIA ЦІ BYELORUSSIA

Пытаньне передачы беларускага нацыянальнага назову ў ангельскай мове, а таксама й у іншых замежных мовах усьцяж вельмі важнае й на часе. У артыкуле „Аб патрэбе інфармацыі" („Бацькаўшчына", нум. 42 (121)) гэтае пытаньне было закранутае ўпяршыню.

У міжчасе была праведзеная дыскусія на гэтую тэму, як у прэсе, гэтак і ў прыватнай перапісцы.

Артыкул С. Брагі ,,Whiteruthenia ці Byelorussia" (Бацькаўшчына, нум. 21-22 (152-153) з 31 траўня 1953 г.) дае добры аналіз назову **Беларусь, беларускі, беларус** у чужых мовах заходняга сьвету. Лягічна й абгрунтавана была даведзеная ў гэтым артыкуле шкоднасьць ужываньня тэрмінаў White Russia і Byelorussia, бо яны даслоўна значаць, што Беларусь гэта частка Расеі, а **беларус** — гэта **бела-рос,** значыцца **белы расеец** і г. д.

З гэтага-ж артыкулу мы бачым, што чужамоўны тэрмін Whiteruthenia (з Ruthenia) — на сяньня найбольш навукова-дакладна перадае слова **Беларусь,** што „не дае такой блытаніны паняцьцяў, як ужываньне тэрмінаў з Russia".

У гэтым-жа артыкуле было, між іншага, прыгадана, што тэрмін з Ruthenia быў ужываны беларускімі навукоўцамі ў часох г. зв. „нацдэмаўшчыны".

У сваім артыкуле я хачу падаць больш дакладны аналіз ужываньня чужаземнай тэрміналёгіі для перадачы нашага нацыянальнага назову беларускімі навукоўцамі ў 1925-30 г. г. Аналіз гэткі можа быць для нас карысны ў канчальным вырашэньні гэтага асабліва важнага сяньня пытаньня.

Наш агляд абыймае наступныя дзьве беларускія навуковыя ўстановы ў Горках:

1. Навуковае Таварыства па Вывучэньні Беларусі Інстытуту Беларускае Культуры;

2. Беларускую Дзяржаўную Акадэмію Сельскае Гаспадаркі ў Горках.

Навуковыя працы гэтых установаў лічаць 13 тамоў і знаходзяцца ў Галоўнай Бібліятэцы (Main Library) Штатнага Унівэрсытэту Огаё ў Калюмбус. На сяньня гэта „музэйная", гістарычная рэдкасьць.

Навуковае Таварыства па Вывучэньні Беларусі Інстытуту Беларускай Культуры выдавала часапіс. поўны беларускі назоў якога гэткі: „Працы Навуковага Таварыства па Вывучэньню Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі ў Горках".

Акадэмія Сельскае Гаспадаркі выдавала часапіс „Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі".

Трэба зазначыць, што ўсе артыкулы ў „Працах" пісаныя вылучна па-беларуску, а ў „Запісках" бальшыня артыкулаў пісаная парасейску. Тлумачыцца гэта, мабыць, тым, што на працы ў Акадэміі засталося шмат былых царскіх прафэсароў расейскага паходжаньня.



Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскае Гаспадаркі займалася навуковымі досьледамі ў галіне розных дзялянак сельскае гаспадаркі. Артыкулы, зьмешчаныя ў „Запісках", больш фаховага характару й таму яны менш цікавыя для шырокага чытача. Наадварот, артыкулы, зьмешчаныя ў „Працах" часта маюць агульнейшы характар і прысьвечаныя й іншым пытаньням, як гісторыі беларускага сялянства ў часы царызму, гісторыі разьвіцьця сельскагаспадарскае школы ў Горках, землеўпарадкваньню Беларусі й г. д. Трэба асабліва адзначыць, што зьмест артыкулаў, друкаваных у „Працах" прасякнуты беларускім патрыятызмам, глыбокай адданасьцяй справе пашырэньня гістарычнае праўды пра нашую Бацькаўшчыну, як сярод сваіх суродзічаў, гэтак і сярод чужынцаў.

Для ар'ентацыі ў структуры й асабовым складзе Т-ва падаецца гэтта выпіска з справаздачы Таварыства за першы год існаваньня, ад 15-га сакавіка 1925 г. да 3-га сакавіка 1926-га г. („Працы", том першы, 1926):

— „Навуковае Таварыства па Вывучэньню Беларусі арганізавалася ў выніку працы камісіі па зьбіраньню й вывучэньню беларускае навуковае тэрміналёгіі. Гэтая камісія была арганізаваная пры Горацкім С. Г. Інстытуце 30-га студзеня 1925 г. і існуе цяпер пры навуковым Таварыстве пад назваю „Тэрміналягічная сэкцыя" (Старшыня сэкцыі дац. І. М. Серада, сакратар З. Б. Закрэўскі, сябры — М. З. Лайкоў, праф. С. П. Мельнік, А. Л. Новікаў, З. К. Дракін і Н. К. Сапронкаў).

Далей там-жа чытаем: „Цяпер (гэта значыцца ў 1926 г.) Навуковае Таварыства па вывучэньню Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі ў Горках на правох сэкцыі Інстытуту Беларускай Культуры.

Таварыства заснавана 15-га сакавіка 1925 г. і зацьверджана Н. К. А. Б. 8-га красавіка 1925 г.

У склад Таварыства ўваходзяць 85 членаў, зь якіх 29 прафэсароў і дацэнтаў і 55 іншых навуковых працаўнікоў. З гэтага ліку зьяўляюцца членамі Інбелкульту 15 асоб.

Таварыства мае ў сваім складзе сэкцыі: прыродазнаўчую, агранамічную й лясную, тэрміналягічную й рэдакцыйную камісіі. Апроч таго, пры Таварыстве ёсьць яўрэйская сэкцыя. Усе сэкцыі паддзяляюцца на падсэкцыі...

Справаздача Таварыства была заслуханая ў прэзыдыюме Інбелкульту 9 сакавіка 1926 г. Тады-ж была створаная адмысловая камісія для апрацаваньня праекту больш цеснай сувязі Таварыства зь Інбелкультам у складзе Каранеўскага Я. (старшыні камісіі), А. Смоліча, Я. Дылы, прадстаўніка жыдоўскага аддзелу ІНБ, прадстаўнікоў Таварыства Бурштэйна М. і Дзямідовіча А.

... Вялікім недахопам было й ёсьць тое, што Таварыства ня мае матар'яльных сродкаў і толькі дзякуючы самаахвярнасьці членаў мы маем за першы год існаваньня вялікія дасягненьні ў працы"... („Працы", том І-ы, бал. 185).

Як у „Працах", гэтак і ў „Запісках" дзеля перадачы назоваў і зьместу часапісаў ці рэзюмэ паасобных артыкулаў ужывалася пераважна нямецкая мова, у лічаных выпадках рэзюмэ было пададзенае таксама ў французскай або расейскай мовах.

Разгледзім цяпер тыя нямецкія тэрміны, якія ўжываліся для пера-

дачы словаў **Беларусь, беларускі, беларус.** У першым томе часапісу „Працы" быў ужыты тэрмін Weissrussland, weissrussische й г. д. Тэрмін гэты, аднак, ужо зьнікае ў наступных тамох часапісу. Пачынаючы ад другога тому, назоў часапісу ў нямецкай мове быў напісаны ўжо гэтак: Das Institut für **Weissruthenische** Kultur. Arbeiten der Gelehrten Gesellschaft zur Erforschung **Weissrutheniens** bei der **Weissruthenischen** Staatlichen Akademie für Landwirtschaft in Gorki (Band II, 1927). (Усюды падчыркваньні мае, А. Д.).

У рэзюме, праўда, яшчэ ў другім томе часапісу „Працы", часамі ўжываліся словы Weissrussland, weissrussische, але ў пазьнейшых нумарох бяз вынятку ўжываліся толькі гэткія тэрміны, як **Weissruthenia, weissruthenische, Weissruthene.**

Першыя два тамы часапісу „Запіскі" маюць напісы на вокладцы толькі ў беларускай, ды расейскай мовах. У тэксьце рэзюмэ гэтых двух тамоў даволі часта ўжываюцца словы Weissrussland, weissrussische й г. д. Але ўжо ў наступных тамох тэрміны зьнікаюць і заместа іх уводзяцца Weissruthenen, Weissruthenia.

Пачынаючы ад трэцяга нумару „Запіскаў", на вокладцы ўжываецца гэткі напіс: „Annalen der Weissruthenischen Staatlichen Akademie für Landwirtschaft in Gorki (прыкладам Band III, 1927), пры чым ніякіх камэнтараў ці заўвагаў што да пераходу да гэткае тэрміналёгіі ў часапісе няма.

У 1928 г. ў перадачы беларускага нацыянальнага назову на нямецкай мове ўжо робіцца некаторая зьмена. Том V (1928) часапісу „Працы" выходзіць з гэткім нямецкім азначаньнем — Institut für Belarussische Kultur, Abteilung für Naturkunde.

Ужываецца не Weissruthenische, а Belarussische й не „Навуковае Таварыства па Вывучэньню Беларусі", а „Гары-Гарэцкае Навуковае Таварыства" (ужываньне слова **Беларусь** рэдукуецца). Але на вокладцы VI тому часапісу „Працы" (1929), які ёсьць апошнім томам, знойдзеным у бібліятэцы Унівэрсытэту ў Калюмбус, назоў часапісу ізноў падаецца, як Weissruthenische Akademie für Wissenschaften, Abteilung für Natur und Volkswirtschaftskunde. У тэксьце рэзюмэ гэтага тому ўжываецца пераважна тэрмін Belarussj — (прыкл. артыкул А. Л. Новікава: Verzeichnisse der Pflanzen, welche in Belarussj beheimatet sind und welche daselbst gedeihen können).

У другой палове 1928 году таксама й у часапісе „Запіскі" заўважваецца зьмена ў тэрміналёгіі. Праўда, на вокладцы яшчэ захаваны пераклад Weissruthenische, але ў тэксьце рэзюмэ і ў перадачы зьместу часапісу зноў зьяўляюцца тэрміны Weissrussland, weissrusische, Belarussj, Belorussj (ужо з расейскім **о** заміж беларускага **а,** як гэта можна пабачыць у VIII томе „Запіскаў" у артыкуле Антонава: Begutachtung der Scheiden-Häckselmaschine „Der Rote October" der Belorussischen Staatswerke).

Цікава адзначыць, што зьмены ў тэрміналёгіі зрабіліся асабліва частымі ў другой палове 1928 г. У папярэднім нумары „Запіскаў" (том VII), выданым у тым самым 1928 годзе ўжываецца выключна тэрмін з Ruthenia ня толькі ў нямецкай, але й у лацінскай мовах.



На апошніх бачынах згаданага часапісу пададзена: „Пераліс насельня, якое прапануецца для абмену батанічным садам Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі". „Пераліс" надрукаваны таксама ў лацінскай мове гэтак:

Delectus seminum
Anno MCMXXVII (Partim Ac MCMXXV et MCMXXVI) collectorum, quae hortus botanicus Academiae Agronomicae Rei Publicae **Alboruthenicae** pro mutua commutatione offert. Professor I. G. Wassilkov — Horti practectus, V. L. Gorsky Hortulanus.
Gorky, R. P. **Alborutheniae** (U.S.S.R.). Calendis Februariis MCMXXVIII.

Тамоў IX-га й X-га „Запісак" у бібліятэцы Унівэрсытэту ў Калюмбус няма. Але ёсьць тут тамы XI-ты й XII-ты за 1930 год, якія зьяўляюцца апошнімі. Згаданыя два апошнія тамы ўжо цалкам апрацаваныя паводле расейскіх вымаганьняў у дачыненьні да перадачы ў нямецкай мове беларускага нацыянальнага назову. Ужо больш зусім ня ўжываюцца тэрміны з Ruthenia. Іхнае месца заступае ведамае Russland. На вокладцы гэтых тамоў надрукавана: „Annale der **Weissrussischen** Staatlichen Akademie für Land und Forstwirtschaft in Gory-Gorki auf den Namen der October Revolution". Як бачым, пачалі пісаць Weissrussische а не Weissruthenische, ды яшчэ з дадаткам „імя Кастрычніцкай Рэвалюцыі".

У тэксьце рэзюмэ ўжываецца выключна тэрмін **Belorussj** з расейскім **о,** хоць яшчэ канчаткавае Russj не зьмененае на Russland. Але ў прыметнікавай форме Russj перадаецца Russisch, Russische. Ад гэтага-ж году лік артыкулаў у „Запісках" парасейску выразна павялічваецца, чаго ня было ў папярэдніх нумарох, калі беларускасьць установы яшчэ ня была забароненай. У навуковым дагэтуль часапісе пачынаюць зьяўляцца й спробы палітычнае прапаганды ды дакучныя спасыланьні на словы Сталіна. З гэтага відаць, што ўжо ў 1930 годзе ад беларускіх навукоўцаў пачалі патрабаваць, каб яны кіраваліся ў сваіх працах варожымі ім „дырэктывамі партыі", а не патрэбамі аб'ектыўнае навукі. Але беларускія навукоўцы-патрыёты не пайшлі за вымаганьнямі бальшавіцкае партыі, таму іхныя навуковыя працы не пабачылі сьвету й пасьля 1930 г. больш ужо не зьяўляліся на Захадзе. Усім добра ведама, што беларускія навукоўцы былі нсўзабаве й зусім вынішчаныя расейскім бальшавізмам.

Падсумоўваючы ўжываньне словаў **Беларусь, беларускі, беларус** нашымі навуковымі ўстановамі ў часы 1925-30 гадоў, мы можам зрабіць гэткія высновы:

1. Абедзьве навуковыя ўстановы — і „Навуковае Таварыства па Вывучэньні Беларусі пры Інстытуце Беларускай Культуры" й „Беларуская Дзяржаўная Сельска-Гаспадарская Акадэмія ў Горках" ужывалі ў нямецкай мове пераважна тэрміны Weissruthenische, Weissruthenien, Weissruthene, пакуль гэта ня было забаронена бальшавіцка-расейскімі ўрадавымі дзейнікамі.

2. Тэрміны Weissrussland і Weissrusse ўжываліся напачатку заснаваньня згаданых навуковых установаў у 1925 г., калі яшчэ беларусізацыя ня цалкам была ахапіла гэтыя ўстановы, а таксама ў 1929-30 гадох, калі пачаўся паход бальшавікоў на ўсё беларускае. Гэ-

тыя тэрміны — чыста расейскія творы й сваёй формаю й зьместам.

3. Спроба ўвесьці тэрмін Belarussj была спробаю дакладна перадаць наш назоў **Беларусь.** У 1928 годзе, аднак, гэткая транскрыпцыя нашага назову была ўжо зьмененая на зрушчаны тэрмін Belorussj, які можна лічыць папярэднікам сучаснага, цалкам ужо зрусыфікаванага тэрміну Byelarussia.

Апрача гэтага, тэрмін **Belarussj,** каб нават і зь беларускім **а,** мае тую загану, што ў прыметнікавай форме прымае зноў-ж чужое нам Russische.

Беларускія навуковыя ўстановы ў часе г. зв. нацдэмаўшчыны, калі маглі яшчэ ўжываць запраўды навуковую тэрміналёгію, згодную з духам і патрэбамі нацыі, ужывалі ў нямецкай мове тэрміны Weissruthenia, weissruthenische, Weissruthene для перадачы словаў **Беларусь, беларускі, беларус.**

Гэтым тэрмінам адпавядаюць гістарычна даўно знаныя лацінскія тэрміны **Alboruthenіae, Alboruthenicae, Alborutheno,** у ангельскай мове **Whiteruthenia, whiteruthenian, Whiteruthenian.**

Тэрміны з Ruthenia ўсе беларускія арганізацыі й выдавецтвы й павінны ўжываць, пашыраць і замацоўваць у перадачы нашага нацыянальнага назову ў чужых мовах, галоўна ў мове ангельскай, бо тэрміны з Ruthenia найлепш перадаюць і гістарычна абгрунтоўваюць запраўдны нацыянальны назоў нашае Бацькаўшчыны.

З боку практычнага, будзе зусім добра пісаць Whiteruthenia, а дзе гэта патрэбнае й мэтазгоднае, у дужках дадаваць Byelorussia.

**др. А. Дунін**

## ЯГАЙЛАВІЧЫ Й МУЗЫКА

Праца М. Куліковіча „Беларуская музыка” дае першую цікавую спробу кінуць сыстэматычнае сьвятло на гістарычнае разьвіцьцё беларускага музычнага мастацтва. З нагоды гэтай кніжкі добра будзе дакінуць гэтта некалькі цікавых фактаў, каторыя належаць да гісторыі нашай музыкі, а якія ў Куліковічавай працы ня ўспомненыя. Давялося іх вынатаваць лістаючы балонкі матар'ялаў да гісторыі беларускай культуры пары Ягайлы й Ягайлавічаў — XIV — XVI ст. ст.

Польскі гісторык Павінскі кажа, што „уражлівасьць на музычны рытм, на мэлёдыю, гэта амаль характэрная спадчынная рыса ўсіх Ягайлавічаў”.[1]) Як пабачым далей, думку гэтую цалкам пацьвярджаюць дакумэнты й летапісныя весткі. Музыка запраўды была „ў крыві” ўсяго Ягайлавага роду: самога Ягайлы, ягоных продкаў і нашчадкаў.

Куліковіч у сваёй кніжцы (бач. 21) падае адну летапісную заўвагу пра Ягайлавага бацьку Альгерда, што той „пацехам і ігрышчам скамарохаў ня ўнімаша”. Падобныя-ж летапісныя весткі, але больш дакладныя, маем і пра Альгердаву сястру Альдону, жонку польскага караля Казімера. Казімер няраз апякаваўся музыкамі й Палінскі кажа, што патураньне для музыкаў „трэба прыпісаць ня столькі ўроджанай дабрыні Казімеравага сэрца, ані ягонаму замілаваньню да музыкі — калі наагул яго меў — колькі ўплывам ягонай маладой жонкі Альдоны”[2]).

Няпрыхільны да Ягайлавага роду польскі храністы Ян Длугош піша ў сваёй хроніцы пра тую-ж Альдону: „Аддавалася толькі гульням, скокам ды вясельлю, ды гэтак, што дзе-б конна ці ў павозцы ехала, перад ёю заўсёды ішоў гурт сьпевакоў з гарфамі, бубнамі, гусьлямі, якія напявалі песьні й розныя мэлёдыі на згаршэньне шмат якіх асоб. Дзеля гэтага й даволі асаблівым страшным лёсам з гэтага сьвету зышла”. (памерла ў 1339 г. з прычыны нейкага выпадку). Вось такое яскравае сьветчаньне пра музыкальныя замілаваньні Альдоны перадае нам, разам з сваім асуджэньнем, суворы сярэднявечны манах Длугош.

Падобны нахіл да музыкі адцемліваюць летапісцы й у Ягайлавай сястры, Аляксандры Альгердзішкі, каторая была замужам за мазавецкім князем Земавітам, а пра якую ведама, што яна, калі прыяжджала ў Кракаў у госьці да брата, заўсёды прывозіла з сабою музыкаў-флейцістых.

Ведаем ужо з працы Куліковіча, што той-ж Длугош перадаў нам у сваёй хроніцы факт пакліканьня Ягайлаю сьпевакоў (як і маляроў) зь Беларусі на кракаўскі каралеўскі двор у 1392 г. Сяньня ведама, што гэта ня быў нейкі аднаразовы толькі заклік. Нашыя музыкі былі сталымі гасьцьмі каралеўскага кракаўскага двара й пры Ягайле, і пазьней пры ўсіх Ягайлавічах.

На Ягайлавым двары беларускія музыкі былі не адзінымі, безконкурэнцыйнымі. Побач іх прабывала там шмат і трубачоў, флейцістых ды бубністых, пераважна замежных заходняэўрапейскіх музыкаў. Беларускія-ж пераважна пяялі пад ігру на гусьлях; былі гэта папулярныя ў тую пару гусьляры.

Як адцемлівае Яхімецкі[3]) роля й заданьне беларускіх музыкаў на кракаўскім двары была кардынальна розная ад заданьня музыкаў іншых. Паколькі флейцістыя, трубачы ды бубністыя з сваёй шумнаю, галоснаю музыкаю выступалі звычайна падчас афіцыяльных каралеўскіх урачыстасьцяў і абходаў для падчыркненьня важнасьці ды велічы каралеўскага маестату, дык нашым гусьляром прыпадала менш афіцыяльнае, але затое больш інтымнае заданьне: разважаць сваімі напевамі й ігрою на гусьлях Ягайлава сэрца падчас ягоных адпачынкаў ад дзяржаўных справаў і клопатаў, сунімаць каралеўскую тугу за сваёй далёкай радзімай — Літвой. Ціхая настраёвая ігра называлася тады **гудзьбою.**

Захаваныя рахункі двара караля Ягайлы выказваюць нам сталую групу беларускіх музыкаў („рутэнаў”), асобную ад музыкаў іншых. Захаваліся й імёны некаторых гусьляроў. Напрыклад пад 1405 г. у гэтых запісах сустракаем выразна беларускае імя гусьляра Гапанаса, якое ў запісах палацінску пададзенае як Hopanas.[4])

Склалася гэтак, што празьмерная любасьць да музыкі была нават і

---

[1]) Adolf Powiński: Młode lata Zygmunta Starego. Warszawa 1893. Бач. 53.

[2]) Aleksander Polinski: Dzieje muzyki polskiej w zarysie. Бач. 36.

[3]) Zdzisław Jachimiecki: Muzyka na dworze króla Władysława Jagiełły. Kraków 1915.

[4]) Rationes Curiae Vladislai Jagellonis et Hedwigis Regnum Poloniae. Kraków 1896.

прычынаю Ягайлавай сьмерці. Летапісцы перадаюць нам характэрную вестку пра тое, што ён набавіўся сьмяротнай хваробы, калі, нягледзячы на холад красавіковай ночы, пашоў у лес, каб слухаць салаўіных сьпеваў[5]).

Ня меншаю за самога Ягайлу музыкальнасьцяй адзначаліся й ягоныя ўсе нашчадкі: сын Казімер Ягайлавіч, усе ягоныя сыны ды апошні зь Ягайлавічаў — Жыгімонт-Аўгуст. Польскія гісторыкі адцемліваюць, што хоць напр. Аляксандра Ягайлавіч і ня быў каралём здольным, ані дзейным, але затое вельмі музыкальным, які акружаў сябе заўсёды адборнымі на тую пару музыкамі.

Яшчэ мацней гэтая спадчыная радавая рыска Ягайлавічаў выяўляецца ў Аляксандравага брата Жыгімонта Старога ды ў апошняга зь Ягайлавічаў — Жыгімонта Аўгуста. За Жыгімонта-Аўгуста пры каралеўскім двары прабывала больш 70 ведамых музыкаў, з чаго больш 20-ці замежных (галяндцаў, вугорцаў, немцаў), а рэшта — сваіх падданых як з Польшчы, гэтак і зь Літвы (Беларусі).

Асобна трэба тут успомніць цікавую зыркую постаць беларускага гусьляра Чурылы з часоў Жыгімонта Старога, пра якога захавалася больш вестак. Яшчэ да гэтага, як Жыгімона стаў каралём, нязвычайна здольны музыка Чурыла быў блізкою да каралевіча Жыгімонта асобаю, сябраю ягоных юнацкіх гульняў, таварышам да картаў і шахматаў, сталым спадарожнікам падчас далёкіх пераездаў, а няраз і ягоным давераным паслом[6]).

Пра што пяяў Чурыла свайму каралевічу, а пазьней каралю, кажа нам гісторык Брукнэр: „гусьляр Чурыла Жыгімонта рускімі песьнямі аб Ліцьве ўзварушаў".[7]) Свайго любімага музыку каралевіч відаць заўсёды клікаў пяшчотным іменем **Чурылка,** бо пад гэтым здрабнелым іменем гусьляр ня раз успамінаецца й у рахунках двара каралевіча Жыгімонта.[8])

Вось гэтых некалькі выпісак пра музыкальны нахіл Ягайлавічаў паказвае нам, што ў летапісах ды гістарычных дакумэнтах ёсьць шмат важных вестак да гісторыі беларускага музычнага мастацтва, вестак ня выкарыстаных яшчэ ані ў кароткім Куліковічавым агддзе, ані наагул у нас яшчэ нідзе неадцемленых. Толькі сабраўшы іх нашы музыкаведы-гісторыкі здолеюць даць нам замест цяперашняга вельмі сьціплага „нарысу" поўны й яскравы абраз багатага разьвіцьця гэтай галіны мастацтва ў нашай мінуласьці.

[5]) Pawiński... Бач. 53.

[6]) Pawiński: Młode lata...

[7]) Aleksander Brückner: Encyklopiedia Staropolska. Warszawa 1939. Бач. 945.

[8]) Pawiński: Młode lata... Wyciąg z ksiąg rachunkowych dworu królewicza Zygmunta (1500 — 1507). Там ёсьць гэткія запісы аб Чурыле: 8 ліпеня 1503: Czurilko cum literis versus Hungariam pro cirurgico Francisco due Regine Poloniae et exinde versus Cracoviam 8 flor. 2 жніўня 1505: Czurilo rutheno antiquo citharedo pro panno... 1 flor.

С. Б.



# А Д Ы Ш Л І

## Інжынер Лявон Рыдлеўскі

24. 10. 1953 г. у Лёндане памёр Лявон Рыдлеўскі, інжынер аграноміі, ахвярны грамадзкі працаўнік, слуцкі паўстанец і партызан францускага рэзыстансу апошняй вайны, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Радзіўся Лявон Рыдлеўскі 2 кастрычніка 1903 г. у мястэчку Ульянавічы на Магілеўшчыне, дзе бацька быў акцызнікам. Бацька выпісваў „Нашу Ніву" і стуль сын з маленства ўжо стыкнуўся зь беларускім друкаваным словам. Сярэднюю асьвету Л. Рыдлеўскі атрымаў у 1923 г. у Вільні дзе скончыў Віленскую Беларускую Гімназію. Вышэйшую навуку здабывае ў Празе. Там канчае агранамічны факультэт праскай палітэхнікі ў 1928 г. з тытулам дыпламаванага інжынера агранамічных навукаў, пасьля чаго яшчэ год студыюе сельска-гаспадарчую эканомію на эканамічным факультэце.

Ад 1929 г. інж. Л. Рыдлеўскі ў Францыі, дзе й аддаецца ўсёй душой беларускай грамадзкай працы сярод тамашняй работніцкай беларускай эміграцыі арганізуючы першыя асяродкі ў Вэрпэлье, пазьней у Парыжы. Падчас апошняй сусьветнай вайны Л. Рыдлеўскі ў радох францускага рэзыстансу на паўдні Францыі. Па вайне ён выдае пафранцуску кніжку аб Беларусі інфармацыйнага характару пад назовам: BIELORUSSIE. Apercu sommaire de l'Histoire de la Nation bielorussienne et du mouvement de Liberation Nationale par Ing. Dip.



L. Rydlevsky, ancien combattant volontaire de l'armee bielorusienne (1920), de l'armee francaise (1939). Paris 1948.

Натужлівая грамадзкая праца не пакідала часу й сілаў для навуковых зацікаўленьняў. Аднак яны існавалі й калі Л. Рыдлеўскі пачуў пра закладзіны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, адразу запісваецца ў сябры й абяцае перасылаць для Усебеларускага Архіву пры Інстытуце некатарыя важныя дакумэнты архіўнага характару. Калі апынуўся ў Англіі ўлетку 1953 г. ён адразу бярэцца за рэгістрацыю беларусікі ў Брытыш Мю-

зэум і іншых бібліятэк Лёндану.

Аднак працы над бібліяграфіяй беларусікі ў Лёндане нястомнаму аж да сьмерці працаўніку нажаль няўдалося паважней крануць зь месца. Неспадзеўкі ў даволі маладых гадох прыходзіць захворваньне на рака страўніка. Праведзеная апэрацыя не змагла стрымаць шпаркага поступу бязьлітаснай хваробы. За некалькі месяцаў інж. Лявон Рыдлеўскі расстаецца з жыцьцём у лёнданскім шпіталі Сан Колюмбус, недачакаўшы гэтак жаданае пары, калі ізноў зможа вярнуцца на сваю родную Магілеўшчыну. Нябошчык пакінуў добры ўспамін сярод сваіх і чужых, з кім толькі прышлося сустрэцца яму праз сваё ахвярнае, поўнае нястачаў жыцьцё.

**С. Б.**

# КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ

**Мікола Куліковіч: БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. New York 1953 г.**

Выхад у сьвет працы ведамага музычнага дзеяча, кампазытара й музыкаведа М. Куліковіча „Беларуская музыка — кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва", — запраўдная падзея ў нашым культурным жыцьці. Як аўтар зусім справядліва піша ў уводзінах да свае кнігі, — „гісторыя беларускае музыкі — адна з наймаладзейшых галінаў мастацкае веды". Хоць мастацкія якасьці беларускае песьні здаўна надзілі ўвагу дасьледных і творчых сілаў, аніякае сыстэматызаванай гістарычнай або тэарэтычнай працы ў гэтай галіне мы ня маем. Гэтак на долю М. Куліковіча выпала пачэснае, але цяжкае заданьне — вызначыць асноўныя вехі, якія значылі шлях разьвіцьця беларускае музыкі, пачынаючы ад сівой старадаўнасьці аж да выкрышталізаваньня прафэсійнага мастацкага дазнаньня. Заданьне гэтае аўтарам выкананае. У кароткай, але яснай форме апісваецца паходжаньне беларускай музыкі, музыка старадаўных беларускіх княстваў, „залатая пара" — красаваньне беларускае культуры ў 14-17 ст. ст. — і пара ейнага заняпаду ў 18-19 ст. ст. Увесь гістарычны шлях разьвіцьця беларускае музыкі аўтар разгортвае на фоне эвалюцыі грамадзкага жыцьця, што дапамагае чытачу больш канкрэтна ўявіць сабе тое ці іншае зьявішча ў музычнай галіне. Апэруючы гістарычнымі падзеямі нашага мінулага, аўтар умела й лягічна зьвязвае імі паасобныя этапы музычнага разьвіцьця ды пробуе даць выразную характарыстыку нашага музычнага мінулага.

У асноўным, трэба сказаць, аўтару гэта ўдалося, асабліва калі ўлічыць немагчымасьць карыстаньня з першакрыніцаў або — вельмі часта — і поўную адсутнасьць гістарычных дакумантаў. Аўтар спасылаецца ў шмат якіх разьдзелах свае працы на гэткія гістарычныя матар'ялы, як летапісы, тагачасныя хронікі й гэтае дакумантальнае абасноўваньне тых ці іншых фармулёўкаў набывае асаблівае вагі ў першай спробе напісаньня гісторыі беларускае музыкі, працы, якая, бясспрэчна, у сваю чаргу будзе крыніцаю думак і вывадаў для далейшых дасьледвальнікаў у гэтай галіне. Таму, як раз, некаторыя фармулёўкі аўтара было-б добра падмацаваць навуковымі довадамі або дакумантальнымі сьцьверджаньнямі, каб захаваць запраўдны навуковы ўзровень дасьледваньня. Да падобных момантаў належаць, прыкладам, высновы аўтара пра абмен творчым дазнаньнем беларускіх і заходня-эўрапейскіх музыкаў (бач. 13), пра беларускіх трувэраў (бач. 20), пра пранікненьне ў Беларусь новых формаў музычнага рэнэсансу (бач. 24), пра асаблівую любасьць да камэрнай музыкі ў тыя часы (там-жа), пра пранікненьне заходня-эўрапейскіх музычных інструмантаў (бач. 25), пра запросіны да двара караля Ягайлы ў Польшчу беларускіх музыкаў (бач. 22). Што да гэтага апошняга, дык храністы Длугаш, на якога спасылаецца аўтар, успамінае пра „рутэнаў". Аднак, гэтак у тыя часы называлі ня толькі беларусаў, але й украінцаў. Абсалютна гаджуся з магчымасьцяй існаваньня таго ці іншага факту, але хацелася-б усё-ж прыймаць іх не „ на веру", толькі на падставе навуковага доваду ці гістарычнага дакуманту. Калі-ж гэткага дакуманту раздабыць аўтар ня мог, дык прыходзіцца прыймаць выснаў аўтара як магчымае лягічнае дапушчэньне але не apriori, што ствараe часам уражаньне бэлетрыстычнага падыходу да матар'ялу.

Заданьнем М. Куліковіча было напісаць кароткі нарыс гісторыі беларускае музыкі. Але часам гісторыя й тэорыя музыкі вельмі цесна пераплятаюцца й абумоўліваюць адна адну. Нездарма ў кажным курсе гісторыі музыкі заходня-эўрапейскіх аўтараў мы знойдзем вялікія разьдзелы, прысьвечаныя тэарэтычным пытаньням. Зразумелая рэч, у кароткім нарысе ўсяго не ахопіш, але ўсё-ж асобныя моманты патрабуюць пашырэньня, ды некаторых карэктываў. Гаворачы, прыкладам, аб старадаўнасьці паходжаньня беларускае песьні (бач. 67), аўтар зусім слушна ўжывае тэрмін „трыхорд". Аднак, сумлеўна, каб непадрыхтаваны чытач (а кніга разьлічаная бязумоўна, якраз на гэткага) ведаў, што гэта, адкуль трыхорд паходзіць і чаму склаўся якраз у гэткім мэлядычным выглядзе. Да рэчы было-б у колькіх радкох зацеміць пра найбольш архаічны актаўна-квінтавы гукарад і ягоную эвалюцыю ў трыхорд. У гэтым-жа разьдзеле, у сувязі з тэрцавай ладавай фармацыяй аўтар прыгадвае старадаўных кітайцаў, што ня зусім правільна, бо паводле выснаваў ведамых музыкаведаў (гл. прыкладам Moser „Lehrbuch der Musikgeschichte", бач. 6-7), старадаўнаму Кітаю быў свомы безпаўтонавы пэнтатонны гукарад. Што тычыцца старадаўнасьці паходжаньня беларускае песьні, дык тут вельмі цікавым і паказальным зьяўляецца яснае захаваньне ня толькі гэтых архаічных ладавых фармацыяў, але й уплывы царкоўных ладоў сярэднявечча, уплывы, якія беларуская песьня непараўнальна яскравей, чымся якая іншая, данесла да нашых дзён і якія ў нейкай меры абумоўліваюць сваеасаблівасьць ейнага характару.

Гаворачы пра бізантыйскія ўплывы (у сувязі з прыймом хрысьціянства) аўтар прыгадвае пра прыход у Беларусь з Бізантыі „пісанай" музыкі ў выглядзе кручкоў або знакоў, падобных да заходніх „нэўмаў",

што прывялі да дакумантальнае, дакладнае фіксацыі напеваў (бач. 16). Без спасыланьня на адпаведныя гістарычныя дакуманты, або іншыя аўтарытэты, гэты выснаў трэба таксама прыняць як лягічнае дапушчэньне,але цяжка спалучыць поймы „нэўмаў" (якія вызначалі толькі прыблізны ўздым або ападаньне мэлёдыі) і „дакладнай фіксацыі" напеву без, няхай зусім кароткага, тлумачэньня эвалюцыі мэтадаў нотнага запісу ад нэўмаў да лінійнай сыстэмы Гвідо Арэцінскага.

Вялікую дапамаговую ролю ў кнізе пра музыку заўсёды іграюць нотныя прыклады. Кніга М. Куліковіча мае іх 22, што на 63 бачыны тэксту ня гэтак ужо мала. Але, на жаль, добрая палова зь іх мае ў сабе рытмічныя, мэтрычныя або мэлядычныя памылкі (толькі часткава паказаныя ў „папраўках да кнігі"), што, праўда, не перашкаджае карыстацца імі, але пакідае ўражаньне карэктурнае неахайнасьці.

Усе гэтыя заўвагі, зразумела ні ў якай меры ня зьніжаюць значаньня выхаду ў сьвет першае спробы сыстэматызацыі матар'ялаў да гісторыі беларускае музыкі, галіны, амаль што яшчэ зусім некранутае дасьледнікамі, але неадрыўнай ад агульнай культуры нашага народу, неабходнай для кажнага, хто цікавіцца нашай гісторыяй, у першую чаргу — для кажнага культурнага беларуса.

**Алесь Карповіч**

## THE LAW OF THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA: Background and Bibliography by Leo Okinshevich. Research Program on the U.S.S.R. New York City, 1953. Бач. 53.

Сваіх узвышшаў права Вялікага Княства Літоўскага дасягае як ведама, у XVI стагодзьдзі — стагодзьдзі слаўных статутаў. Як каштоўная спадчына права гэтае заўсёды мела й нямала прэтэндэнтаў на спадкаемства.

Што статуты пісаныя пабеларуску, старою беларускаю моваю, — ніхто сяньня з навукоўцаў гэтаму паважней не пярэчыць. Справу хто, які народ быў запраўдным тварцом гэтых выдатных юрыдычных памятак Вялікага Княства Літоўскага, найлепш паясьняе нам сам галоўны рэдактар трэцяга, найдасканальшага, статуту 1588 г., канцлер Леў Сапега. Ведамыя ягоныя словы з прадмовы да статуту аб тым, што „есьлі катораму народу ўстыд правоў сваіх няўмеці пагатоўю нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем".

Ня менш цікавыя й важныя іншыя Сапегавы словы зь ягонага звароту да караля Жыгімонта Вазы ў статуце: „Статут новы... на многіх месцах ад людзей мудрых, а ў правох беглых, з народу нашага на то абраных, папраўлены..." Дык сам Сапега сьцьвярджае, што ня толькі беларуская мова статуту была „свая ўласная" й яму, і ўсяму народу-гаспадару дзяржавы, але й укладаўся ён людзьмі таго-ж беларускага народу. Нам нажаль, ведамыя толькі прозьвішчы двух галоўных рэдактароў: Льва Сапегі, тагачаснага падканцлера ВКЛ, і Аўстахія Валовіча, тагачаснага канцлера.

Сапегавыя словы ў поўнасьці пацьвярджаюцца й навуковымі дасьледамі: статуты гэтыя гэта творы беларускага народу й па генэзе свайго паходжаньня з старога беларускага звычаёвага й пісанага права, і па нацыянальнасьці сваіх тварцоў, і па сваёй мове.



Чытаючы працу Л. Акіншэвіча прыходзіцца шкадаваць, што гэтак яскравыя ды аўтарытэтныя сьветчаньні Льва Сапегі не зацытаваныя аўтарам у уводным або замыкальным слове працы, тамка, дзе як магчымыя суспадкаемнікі права Вялікага Княства Літоўскага разглядаюцца побач народу беларускага й лятувісы ды ўкраінцы.

Аўтар кажа, што „Беларускі народ паклаў (на ВКЛ — Р. М.) сваё культурнае таўро праз сваю мову, каторая стала моваю „Літоўскай" дзяржавы таго часу, і праз сваю собскую сыстэму пісанага й звычаёвага права — факт асаблівай вагі; лятувіскі народ даставіў аснаўное ядро валадароў і ўрадоўцаў; украінскі народ пераказаў сваю культуру, якая была часткаю ейнай спадчыны зь дзён яшчэ вялікай імпэрыі „Кіяўскай Русі".

Калі юрыдычная сыстэма абаснаваная на пісаным і звычаёвым праве народу ды й пісаная моваю гэтага народу — хіба-ж з поўнай справядлівасьцяй права гэтае можам і называць правам дадзенага народу, а ня нейкага іншага.

З паглядам аўтара, што ў Вялікім Княстве „лятувіскі народ даставіў аснаўное ядро валадароў і ўрадоўцаў" пагадзіцца цяжка. Калі й прыняць балцкае паходжаньне князёўскай дынастыі, дык у XVI ст., стагодзьдзі статутаў, вялікія князі мелі вельмі, вельмі мала супольнага з балтамі па крыві, а нічога па культуры. З другога боку мы ведаем, што статуты ўкладалі не вялікія князі, а выбраныя на гэта „людзі мудрыя з народу нашага". Вялікі князь толькі зацьвярджаў іх, а калі ходзіць пра статут трэці, дык ён і зацьверджаны быў ужо „гаспадаром" крыві швэцкай — Жыгімонтам Вазаю.

А што да „балцкіх урадоўцаў", дык у пару статутаў найбольш канцлераў, гэтманаў, ваяводаў, старастаў давалі гэткія чыста беларускія й з паходжаньня, галінастыя й магутныя рады, як Хадкевічы, Сапегі, Валовічы, не гаворачы аб дзесяткох драбнейшых.

Што-ж да культурнай спадчыны „Кіяўскай імпэрыі" дык яна магла перадавацца на нашыя землі ў пару існаваньня гэтай „імпэрыі", гэта значыцца да татарскага яе падбою ў 1240 г., а не тады, як яе ад даўжэйшага часу ўжо ня было — ў пару Вялікага Княства Літоўскага й ягоных статутаў. Кіяў на доўгія стагодзьдзі перастаў быць важным палітычным і культурным асяродкам і культурныя ўплывы маглі ісьці тады толькі зь Вільні ў Кіяў, а не наадварот (гэтак і было аж да пары кіяўскай Магілянскай Акадэміі ў XVII ст.). Дык і паважнейшых асноваў да прызнаваньня ўкраінцаў за роўнапраўных, побач зь беларусамі, спадкаемнікаў да праўнай спадчыны ВКЛ, аб'ектыўна біручы, няма.

Гэтыя нашыя ўдакладненьні што да лятувісаў і ўкраінцаў ня пярэчаць зусім гэтаму, што хоць права ВКЛ і было правам беларускім, але яно можа быць разгляданае й у гісторыі народаў лятувіскага ці украінскага дзеля той простай прычыны што гэтым нашым правам праз доўгія стагодзьдзі рэгулявалася жыцьцё й гэтых двух суседніх нам народаў (калі ходзіць пра ўкраінцаў — не на ўсёй тэрыторыі).

У сваёй аснаўной частцы Акіншэвічава праца падае нам бібліяграфію права Вялікага Княства Літоўскага ад пачаткаў XIX ст., аж да пары другой сусьветнай вайны. Усіх пададзе-

на 324 працы 127 аўтараў. Яны падзеленыя на тры хранолёгічныя групы: працы да 1850 г. (6); працы ад 1850 г. да першай сусьветнай вайны (125) й працы міжваеннай пары аж да нашых дзён (193). Ужо з самога цыфровага прыраўнаньня бачым, што навуковае зацікаўленьне правам ВКЛ з гадамі ня толькі ня падае, але шпарка ўзрастае. Гэты рост асабліва зазначаецца ў міжваенныя гады.

Трэба адцеміць, што сярод гэтых працаў ёсьць, нажаль, толькі пара дзесяткоў працаў аўтараў беларускіх. Зразумела, гэта не праяў малога зацікаўленьня беларускіх навукоўцаў юрыдычнаю спадчынаю свайго народу. Гэта толькі адбітак таго, што дзеля палітычных абставінаў ім было дадзена мала магчымасьці працу гэтую праводзіць.

З тэхнічных недаглядаў кнігі трэба адзначыць адзін паважнейшы: пераклад словаў і **Русь**, і **Расея** тымжа **Russia**. Гэтак найчасьцей праўда, (хоць і ня правільна) гэтыя два пераўназначныя словы дагэтуль у навуковай літаратуры й перакладаліся, спрычыняючы праз гэта нямала блытаніны. Аднак апошнім часам сустрэнем усё больш выданьняў, дзе гэтыя два поймы ў мовах заходняга сьвету дакладна разрозьніваюцца або гэтак, што слова **Русь** пакідаецца бяз зьмены толькі ў лацінічнай транскрыпцыі Rus', або перадаецца старым, некалі вельмі папулярным у Эўропе, тэрмінам Ruthenia. Тэрмін-жа Russia пакідаецца толькі для слова **Расея**. Ад падобнага ўдакладненьня й разьмежаваньня поймаў і аўтарава праца толькі скарыстала-б.

З драбнейшых недакладнасьцяў трэба адцеміць транскрыпцыю беларускага **г** (напр. у слове **гаспадар**, бач. 18) літараю g. І ў пару нашых статутаў гэты беларускі гук вымаўляўся толькі як h, а ніколі як g. G у словах чужых перадавалася ў нас тады літарамі **кг** (пісалі, напр., микгдалы, Жикгимонт). Транскрыпцыя беларускага **г** праз h прынятае як сталае правіла й амэрыканскімі навуковымі ўстановамі (напр. Публічнаю Бібліятэкай у Ню Ёрку).

Шкада вельмі, што праз карэктарскую памылку першая літара прозьвішча Conze зьмянілася й атрымалася Gonze (бач. 47), што робе немагчымым практычна знайсьці ў бібліятэках важную працу пра валочныя памеры пары Жыгімонта Аўгуста гэтага выдатнага сучаснага нямецкага знаўцы Беларусі, асабліва яе аграрных пытаньняў.

Абыйсьціся бязь бібліяграфіі, апрацаванай Л. Акіншэвічам, будзе ў будучыне цяжка кажнаму, хто будзе цікавіцца навукова пытаньнямі права Вялікага Княства Літоўскага, нашага права. Карыстаньне з працы палягчаюць вельмі заведзены ясны тэматычны падзел матар'ялу ды дадзены ў канцы іменны паказьнік аўтараў. Уклад бібліяграфіі паказвае, што апрацаваная яна майстраю сваёй галіны, якім, як ведама, аўтар, як сам гісторык права, і ёсьць.

**Р. М.**

**П. Б. Струве. Социальная и экономическая история России с древнейших времен до нашего, в связи с развитием русской культуры и ростом российской государственности. Париж 1952, 387 бач.**

Выдадзены залетась пасьмертны твор П. Б. Струве (памёр у 1944 г.) выклікае адмысловую цікавасьць. Найперш — як новая спроба курсу расейскай гісторыі. З увагі на тое, што ў паймо „расейскай гісторыі"



бальшыня расейскіх вучоных улучае гісторыі ўсіх усходня-славянскіх народаў, — іхныя працы ня могуць ня цікавіць прадстаўнікоў навукі гэтых народаў. Апрача гэтага, імя аўтара, які ёсьць адным з найбольш цікавых і найбольш уплывовых прадстаўнікоў расейскай навукі й расейскага грамадзтва канца XIX й першай паловы XX ст., дае падставы мяркаваць пра магчымасьць наяўнасьці ў ягоных працах цікавых і, своеасаблівых думак.

Гэты твор незакончаны. Пытаньне Маскоўскага гаспадарства й прычыны ягонага росту й ягоных вонкавых удачаў аўтар толькі пачаў асьвятляць. Праца ў пасьлядоўным асьвятленьні даведзеная толькі да XIV ст. й канчаецца часамі татарскае заваёвы. Другая частка мае толькі пасобныя нататкі ў якіх адно часткова закранаецца пытаньне Маскоўскага гаспадарства.

У працы Струве з асаблівай відавочнасьцю выяўляецца памылковасьць пазыцыяў тых дасьледчыкаў расейскага мінулага, якія маюць нахіл ня бачыць у гісторыі Вялікарасеі асобнага (ад гісторыі Беларусі й Украіны) гістарычнага працэсу. З працы Струве, асабліва ясна, што поўнае зьмешваньне дадзеных паўночна-ўсходняй (вялікарускай), паўдзённа-заходняй (украінскай) і паўночна-заходняй (беларускай) часткі ўсходняга славянства можа быць апраўдана адно пры ўмове доказу асноўнай тэзы, пра спаконвечнае адзінства „расейскай нацыі". Калі-ж гэтую тэзу ўважаць хоць-бы за спрэчную, дык адзіна навуковым мэтадам будзе *сумленнае* разьмежаваньне разгляданых зьяваў, свомых паасобным часткам славянства (магчыма — для раньняй эпохі нават паасобным „землям", княствам і плямёнам). Праца Струве, у якой ён апэруе ніколі не даведзеным паймом адзінства расейскай нацыі безумоўна шмат і шмат у чым губляе на сваёй навуковай вартасьці.

Заданьнем аўтара было „стварыць новую сынтэзу ўсёй расейскай гісторыі" (б. XIII) або, як ён кажа ў іншым месцы, — „новая" й у некаторым сэнсе бязьлітасная сынтэза расейскай гісторыі, не расейскай прасторы, а расейскай культуры й дзяржаўнасьці" (б. XIV). Заданьне, як бачым, нязвычайна цікавае й сьмелае. Нам здаецца, што выканаць цалком гэтае заданьне аўтару не ўдалося, і ня толькі таму, што ён ня скончыў свае кнігі. У распрацаванай ім частцы пра старадаўную Русь мы ня знойдзем якоганебудзь наважнага адыходу ад ранейшых паглядаў папярэдніх дасьледнікаў і стварэньня зусім новай тэорыі. Але праца такога выдатнага вучонага, якім быў Струве, ня можа ня мець своеасаблівых і цікавых думак. У гэтым ейнае бясспрэчнае значаньне.

Вельмі цікавае (нажаль, яно засталося неразгорнутым), *ягонае* сьцьверджаньне што „на ўсёй прасторы расейскай сацыяльнай і эканамічнай гісторыі свабода й вольнае гаспадараньне змагаюцца з прымусам і зьвязаным гаспадараньнем". (6). Расейская „сацыялістычная рэвалюцыя XX ст. ёсьць грандыёзнай рэакцыяй каранных сілаў прымусу супраць гэткіх-жа каранных сілаў свабоды ў эканамічным і сацыяльным разьвіцьці Расеі й ейных народаў" (7). Але аўтар не дае галоўнага — тлумачэньня гэтага змаганьня й гэтай асаблівай моцы „каранных сілаў прымусу" ў гісторыі Расеі. І гэтага шкада.

Пэрыяд ад 1648 да 1917 г. Струве уважае за „эпоху эўрапеізацыі ра-

сейскай прасторы й ейнага жыхарства" (б. 18). Гэтаму працэсу частка жыхарства супроцьдзеіла. „Бальшавіцкі пераварот і бальшавіцкае панаваньне зьяўляецца сацыяльнай і палітычнай рэакцыяй эгалітарных нізоў супроць шматвекавой сацыяльнай і эканамічнай эўрапеізацыі Расеі" (19).

На пагляд Струве (б. 43) палітычны лад усходня-славянскіх дзяржаваў X-XIII ст. ст. ёсьць „арыстакратычным народапраўствам". Відаць, у гэтым — спрашчэньне куды больш складанага ў сваёй істоце пытаньня: лад дзяржаваў таго часу наагул адрозьніваўся ад нашага. Вось чаму ў дачыненьні да ўсходня-славянскіх княстваў нельга гаварыць ні пра арыстакрацыю (як гэткая, яна ўтварылася шмат пазьней) ні пра народапраўства (яно ня было асноўнай крыніцай улады, якая-б адкідала іншыя віды ўлады). У гаспадарствах таго часу існавала канкурэнцыя й судзеяньне розных формаў кіраўніцтва й органаў улады. Вось якраз таму былі „два правы", пра якія далей (б. 44) гаворыць Струве (княжае й вечавое). У запраўднасьці, заўважым мы, было шмат больш правоў (баярскае, царкоўнае, вэрвнае, ды інш.), недастаткова разьмежаваных міжсобку й канкурэнтных.

Для беларускага чытача мог-бы здацца цікавы разьдзел „Дзьве Русі" (183-206 б.). У гэтым разьдзеле адна Русь — гэта Маскоўскае гаспадарства, а другая „Літоўска-Рускае". На вялікі жаль, у згаданым разьдзеле няма арыгінальных думак. Невялікае значаньне ў Вялікім Княстве Літоўскім лятувіскага элемэнту, што падчырківае Струве — зьява, прызнаная да гэтага часу бальшынёй дасьледнікаў. А ягонае сцьверджаньне, што жыхарства беларускіх і ўкраінскіх частак Вялікага Княства было гэткім-жа „рускім", як і жыхарства Маскоўскага гаспадарства, зусім адказывае ягонай агульнай канцэпцыі апрыёрнага адзінства ўсходніх славянаў.

Не бяз цікавасьці чытаюцца бачыны прысьвечаныя пытаньню „існаваньня" або „неіснаваньня" ў усходняй Эўропе фэодальных дачыненьняў. Уважаючы за асноўную адзнаку фэодалізму ўмоўнасьць валоданьня зямлёй, Струве прыходзіць да выснаву, што ў Усходняй Эўропе гэтае ўмоўнае валоданьне („поместная" сыстэма) прыходзіць позна, калі гаспадарства ўжо траціць іншыя адзнакі фэодальных дачыненьняў: раздрабненьне дзяржаўнай улады, пірамідальная структура палітычных ды сацыяльных дачыненьняў, ды інш. Вось чаму ягоны выснаў пра наяўнасьць фэодалізму хутчэй адмоўнага парадку.

З гэтай заўвагаю запраўды нельга ня лічыцца. Але, на наш пагляд, у „фэодалізьме", як і ў кажнай іншай сыстэме дзяржаўных і сацыяльных дачыненьняў, ніколі нельга шукаць ні тожсамасьці ўсіх рысаў, ні нават наяўнасьці „галоўных" і „асноўных" зь іх. У розных грамадах і ў розных абставінах гэтыя дачыненьні выяўляюць сябе ў рознай форме, ня ўсе адзнакі й рысы свомыя ўсім „фэодальным" грамадам і саюзам, „галоўнымі" й „асноўнымі" ў розных грамадах могуць быць не адны й тыя-ж рысы й зьявы ды яны могуць выступаць не ў вадзін і той-жа час (у вадных раней адны дачыненьні, у іншых іншыя). І нават у гэтым больш агульным і ня зусім азначаным найме („фэодалізм" або „станавая манархія" або „капіталізм") можна знайсьці шмат супольнага, як падставу, каб аднесьці пэўную эпоху грамады да таго ці іншага грамадзка-гістарычнага тыпу.

На гэтым мы можым скончыць наш агляд пасьмертнае працы Струве. У сваёй цэласьці яна не становіць сабою выдатнай падзеі. І ня толькі таму, што яна нясконченая й нічога не гаворыць пра найважнейшыя пэрыяды „расейскай гісторыі" (на наш пагляд гэткімі ёсьць XVI й XVII ст. ст.). Нават у распрацаваных частках нельга адшукаць новай і „бязьлітаснай" сынтэзы расейскай гісторыі. А гэтай новай і бязьлітаснай сынтэзы гэтая навука запраўды патрабуе. У працы Струве мы аднак, знаходзім паасобныя думкі й цьверджаньні, зь якімі льга або нельга пагадзіцца, але якія, бясспрэчна, цікавыя. У гэтым сэнсе згаданая праца ведамага расейскага грамадзкага дзеяча й вучонага пакіне сьлед у разьвіцьці навукі аб гістарычным працэсе ўсходня-славянскіх народаў.

**Л. А.**

**Watson Kirkconnell: Common English Loanwords in East European Languages. Winnipeg 1952. Праці Інституту Слов'янознавства Української Вільної Академії Наук. Бач. 20.**

У сваёй цікавай працы аўтар дае агляд найбольш папулярных англізмаў у некаторых мовах Усходняй Эўропы. Практычна праца абмяжоўваецца мовамі: украінскай, расейскай, вугорскай, чэскай, польскай, харвацкай, лятувіскай і нямецкай. Выглядае, што аўтар у першую чаргу даў агляд англізмаў тых усходня-эўрапейскіх моваў, добрыя, вялікія слоўнікі якіх былі ў яго пад рукою. Больш падрабязна разгледжаныя англізмы ў мове ўкраінскай. Беларуская мова, нажаль, не ўзятая на ўвагу відаць дзеля прычыны, аб якой лёгка здагадацца: мы ня маем сяньня добрага, вялікага слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Беларуская мова англізмаў мае не так шмат, прынамся далёка менш, чымся, напр. германізмаў. Прычына гэтага тая, што з Ангельшчынай, як пазьней ізь іншымі англамоўнымі краінамі (ЗША, Канадаю), Беларусь, як край наскрозь кантынэнтальны, ня мела ніякой жывейшай эканамічнай ды культурнай лучнасьці.

Толькі з канца XIX ст. пачалася масавая эканамічная эміграцыя зь Беларусі ў ЗША (сюды выехала хіба больш поў-мільёна эмігрантаў) і Канаду ды празь яе навязалася й цясьнейшая лучнасьць з Паўночнай Амэрыкай. Некаторыя эмігранты пазьней вярталіся назад ды прывозілі ладную частку ангельскіх уплываў у сваёй мове. Але эміграцыя гэтая як раптоўна пачалася, гэтак раптоўна была спыненая з аднаго боку новымі іміграцыйнымі законамі ЗША, зь іншага асноўнаю зьменаю палітычнага палажэньня на землях Беларусі пасьля першай сусьветнай вайны. Таму й гэтыя новыя сувязі не пасьпелі пакінуць нейкіх выразьнейшых сьлядоў у нашай мове.

У выніку, тыя англізмы, якія мы сяньня знаходзім у нашай мове, гэта ня словы, якія прыйшлі да нас празь безпасярэдні сутык дзьвёх моваў, а словы, што прывандравалі да нас у розныя вякі празь іншыя, суседнія мовы. Таму ўсе яны й належаць да тых словаў ангельскага паходжаньня, якія пашыраныя амаль ува ўсіх усходня-эўрапейскіх мовах.

Да ведама беларускага чытача, як часткава й з мэтаю папоўніць з гэ-

тага боку аўтараву працу, тут даецца пералік больш сотні найпапулярнейшых англізмаў у сучаснай беларускай мове. Словы падаюцца ў парадку, ужываным аўтарам у ягонай працы, у правапісе найчасьцей сустраканым у нашым друку.

**Спорт:** спорт, спартсмэн, бокс, баксэр, накаўт, футбол, футбалісты, тэніс, пінґ-понґ, кракет, гакей, чэмпіён, рэкорд, клюб, старт, трэнінґ, бульдоґ, фокстэр'ер, брыдж, шлем, партнэр, віст, пілёт, ґольф.

**Вопратка:** свэтэр, пулёвар, смокінґ, шавёт.

**Пітво й ежа:** біфштык, пудынґ, джын, ґроґ, віскі, портэр, тост, пунч, веґетар'янец, веґетар'янскі, рум.

**Лад:** парлямэнт, сьпікер, мітынґ, лібэрал, лібэральны, лібэралізм, абструкцыя, аґітатар.

**Прамысловасьць:** капітал, трэйд юн'ён, байкот, страйк, страйкаваць, страйкбрэхер, стэрлінґ, трэст, чэк, бюджэт.

**Навука й вынаходы:** ват, дальтанізм, дарвінізм, лякаматыва, кокс, бункер, тэндэр, трамвай, вагон, трактар, камбайн, дрэн, дрэнаж, прапэлер, стабілізатар, тэрмас, ліфт, фаервэрк, фільм.

**Музыка й скокі:** джаз, джазбэнд, факстрот.

**Скаўтынґ:** скаўт, скаўцкі, скаўтынґ, джэмборы.

**Таварыскае жыцьцё:** лёрд, джэнтэльмэн, сэр, сноб, снабізм, флірт.

**Друк:** рэпартэр, памфлет, інтэрв'ю.

**Вайна:** шрапнэль, люізыт, танк, драгун, (даволі частае ў Беларусі прозьвішча **Драгун** відаць таго самага паходжаньня).

**Землеробства:** фарма, фармэр.

**Розныя:** масон, скеч, шок, тотэмізм, янкі, лінч, лінчаваць, блеф, хуліґан, камфорт, ліліпут, клёўн, утопія.

**С. Б.**

### БІБЛІЯ СКАРЫНЫ У ЛЁНДАНЕ

Гісторык нашай літаратуры Максім Гарэцкі ў сваёй „Гісторыі беларускае літаратуры" падае, што найбольш поўны камплект Скарынінскай біблії, бо аж 22 кнігі, знаходзіцца ў Брытанскім Музэі ў Лёндане. Зь ініцыятывы ўправы Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне некалькі гадоў таму вяліся пошукі за гэтымі цэннымі беларускімі першадрукамі ў Брытанскім Музэі. Як цяпер выясьняецца, інфармацыя М. Гарэцкага нажаль не спраўджаецца. У Брытанскім Музэі ўдалося знайсьці толькі адну адзіную кнігу Скарынінскай біблії — Кнігу Царств (Самуіла), друкаваную ў Празе ў 1518 г.

Падчас выстаўкі больш цікавых кнігаў розных народаў у канцы 1953 г. гэтая кніга была выстаўленая ў украінскім аддзеле. Пад ёю быў гэткі паясьняльны напіс паангельску: „Францішак Скарына, 1490? — 1535, з Полацку, Кнігі... Царств, Прага 1518 г. Кнігі Самуіла перакладзеныя Скарыною на мову беларускую (White Russian). У гэную пару адну з афіцыяльных моваў Польшчы й Літвы. Скарына паклаў асновы літаратурнай мовы паўдзённа-заходняй Русі".

На запытаньне сябры Інстытуту, а. др. Ч. Сіповіча, чаму кніга пакладзеная ў ваддзел украінскі, хоць пад ёю й напісана, што яна пісаная пабеларуску, арганізатары выстаўкі адказалі, што на асобны беларускі аддзел, нажаль, не знайшлося ўжо месца, а ў расейскі класьці яны яе не хацелі.

**С. Б.**



# Х Р О Н І К А

**Беларускі літаратурны часапіс.** У канцы 1953 г. Літаратурная Сэкцыя Беларускага Інстытуту прыступіла да арганізацыі й выдаваньня беларускага літаратурнага часапісу. Неабходнасьць гэткага часапісу на эміграцыі вельмі востра адчуваецца. Часапіс будзе выдавацца коштам Беларускага Інстытуту, ён мае выходзіць непэр'ёдычна, некалькі разоў у год. Арганізатары часапісу дакладаюць стараньняў, каб часапіс і сваім зьместам, і якнайшырэйшым удзелам выдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў, стаўся рэпрэзэнтацыйным часапісам беларускай літаратуры на эміграцыі.

**Літаратурны конкурс.** Літаратурная Сэкцыя Беларускага Інстытуту апавесьціла ў канцы мінулага году літаратурны конкурс на беларускае апавяданьне з нагародамі: I — 50 даляраў, II — 30, III — 20. Тэрмін прысылкі твораў (прадоўжаны) — да 1 ліпеня 1954 г. Прыймаюцца толькі творы яшчэ нідзе недрукаваныя. Дакладнейшыя ўмовы конкурсу пададзеныя ў беларускай прэсе. Творы да конкурсу трэба перасылаць на адрыс паэты Рыгора Крушыны:

Mr. G. Kazak, 191, Henry St., New York 2, N. Y., U.S.A.

**Кніга паэзіі Янкі Купалы.** Прыгатаваная групаю сяброў Беларускага Інстытуту вялікая кніга выбранай паэзіі Янкі Купалы друкуецца ужо ў Мюнхэне Выдавецтвам „Бацькаўшчына". Кніга будзе мець каля 500 бачынаў друку й мае даць усё найлепшае з усёй Купалавай паэтычнай спадчыны.

**Творчая праца кампазытара Алеся Карповіча.** Ведамы кампазытар А. Карповіч апошнім часам напісаў гэткія новыя музычныя творы: „Беларуская сюіта" для фартап'яна. Складаецца яна з 6-х частак — „Кладуцца цені", „Сумны вечар", „Мяжою", „Ля ракі", „Нотурно". „Лявоніха".

„Курган" — музыка да паэмы Янкі Купалы пад гэткім-жа назовам (салёвыя партыі з музычным суправаджэньнем).

„Баляда" на беларускую тэму, для фартап'яна. „Рапсодыя" на беларускія тэмы, памяці М. Равенскага.

Рамансы: „Вечар асеньні" (словы Язэпа Пушчы), „Песьня сонцу" (Я. Купалы), „Не бядуй" (Я. Коласа), „Добрай ночы зара, зараніца" і „Маладыя гады" (М. Багдановіча), „Мне ня жаль" (Л. Геніюш), „За акном дробны дождж шалясьціць" (Хв. Ільляшэвіча), „Мой край" (Р. Крушыны), „Заход сонца" і „Ціхі летні вечар" (Ул. Клішэвіча), „Я пасею песьні" (Золака).

Апрацоўкі беларускіх народных песьняў, для хору й солё: „Цераз сад-вінаград", „Ой, на гары жала", „Мяцеліца", „Ой, ці мне ноч", „Ой, хадзіў, гуляў малойчык", „Сваток", „Зажурылась пападзя", „Перапёлачка" і іншыя.

Напісана кампазытарам і некалькі песьняў лёгкага жанру. Цяпер ад некалькі месяцаў кампазытар працуе над кантатаю „Апокрыф" (словы Максіма Багдановіча) для хору й салістых у суправаджэньні фартап'яна. Пазьней мае намер пісаць музыку для „Нёману" Янкі Купалы (магчыма таксама кантату).

**Рэфэрат праф. Льва Акіншэвіча.** 27 лютага 1954 г. у Ню Ёрку адбылося навуковае паседжаньне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з дыскусіяй на тэму працы праф. Льва Акіншэвіча з папярэдняга нумару ЗАПІСАУ: „Пра цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу". У сваім уступным слове да дыскусіі праф. Акіншэвіч дапоўніў свае пагляды выражаныя ў вышэй успомненай працы ды зьвярнуў увагу на намаганьні сучаснай гістарычнай навукі дакладней азначыць характэрныя асаблівасьці заходняга й усходняга эўрапейскіх цывілізацыйных тыпаў, ды падаў як канкрэтны прыклад такой спробы схэму Шубарта.

Дыскусія над пастаўленым пытаньнем была вельмі жывая. Др. Я. Станкевіч цьвердзіў, што беларускі народ, калі ўзяць пад увагу схэму Шубарта, мае ў сваёй псыхіцы элемэнты амаль вылучна заходняэўрапейскія, а ня ўсходнія. Ніякіх паважнейшых іншых цывілізацыйных элемэнтаў праз усю гісторыю беларускага народу не даецца заўважыць. Хоць хрысьціянская рэлігія ў Беларусь і прышла ў бізантыйскіх формах, аднак гэта ня мае ніякога паважнейшага значэньня для гісторыі культуры Беларусі, паколькі асноваю рэлігіяў ёсьць догмы, якія хоць і важныя для рэлігіі, але малога значэньня для культуры. Др. Станкевіч адмаўляе для бізантыйскай культуры назоў „эўрапейская", бо, паводле яго, з Эўропаю яна нічога супольнага ня мела, яна вырасла на культурных элемэнтах Малой Азіі, галоўна на культуры сырыйскай. Няма ніякіх довадаў на тое, каб нейкія бізантыйскія цывілізацыйныя элемэнты ўвайшлі ў васнову культуры беларускай. Прычынаю ўпадку Вялікага Княства Літоўскага была не „заходнясьць" ягоных вышэйшых грамадзкіх слаёў, а толькі паўсталае няспрыяльнае палітычнае палажэньне.

П. Манькоўскі выразіў падобныя пагляды ў справе значэньня рэлігіі ды догмаў для культуры ды таксама выказаў пагляд пра вылучную „заходнясьць" беларускіх цывілізацыйных асноваў. Усходня-эўрапейскія, расейскія, уплывы ніякога паважнейшага значэньня ў гэтым пытаньні ня маюць, паколькі былі гэта амаль вылучна палітычныя ўплывы, а культурна Расея магла ўплываць наагул толькі ад кароткага часу, бо сама стала „цывілізавацца" толькі ад XVIII ст.

Інж. М. Абрамчык ня прызнае нейкай аддзельнасьці бізантыйскай культуры ад заходня-эўрапейскай, лічыць іх у сваіх асновах за адну, і дзеля гэтага й уплывы ў Беларусі маем вылучна цывілізацыі эўрапейскай, незалежна ад таго, ці яны ішлі да нас з захаду, ці праз Бізантыю.

Я. Ліманоўскі уважае за хвальшывы пагляд, што рэлігія ня ірае ніякой паважнейшай ролі ў культурным жыцьці народаў. Рэлігія была й ёсьць вельмі паважным і культурным, і палітычным фактарам, які й быў ня раз у Беларусі выкарыстоўваны й Захадам, і Усходам.

А. Адамовіч зьвярнуў увагу на тое, што пытаньне „Захаду" ці „Усходу" Беларусі яшчэ ў пачатку дваццатых гадоў гэтага стагодзьдзя было паднятае ў паэзіі Дубоўкаю. У Беларусі існуюць ня толькі бізантыйскія культурныя элемэнты, але й не малыя расейскія ўплывы, як напр. у літаратуры, музыцы, хоць дзеля палітычных мяркаваньняў звычайна ў нас пра гэта вельмі мала й гаворыцца.

В. Тумаш падчыркнуў, што трэба заўсёды дакладна разьдзяляць, ня блытаць два розныя поймы, дзьве розныя культурна-цывілізацыйныя зьявы: усходняэўрапейскую-бізантыйскую й усходняэўрапейскую-расейскую (якую некаторыя аўтары называюць культураю „эўразійскаю"). Хоць Расея й сіляла культурныя элемэнты зь Бізантыі, аднак сама Бізантыя ня мае нічога супольнага з Расеяй, і тыя ці іншыя элемэнты бізантыйскай культуры ў Беларусі абсалютна нічога нам не гавораць пра нейкія „расейскія ўплывы". Бізантыйская-ж цывілізацыя як адна з галоўных спадкаемніц антычнай культуры грэцкай, нягледзячы нават на некаторыя ўсходнія ўплывы, цывілізацыя наскрозь эўрапейская. Дзеля гэтага, паколькі ў васновах нашай культуры, апрача радзімых (таксама эўрапейскіх каранёў), ляжаць толькі заходнія й бізантыйскія — абодва эўрапейскія — элемэнты, дык і нашыя „цывілізацыйныя асновы" наскрозь эўрапейскія, у вадрозьненьне ад расейска-эўразійскіх, у якіх ёсьць шмат элемэнту пазаэўрапейскага, азійскага.

Рэлігія, асабліва ў даўнейшую пару, гэта ня толькі справа догмаў, але й фактар першараднай культурна-гістарычнай вагі. Довадаў на гэта й нашая гісторыя дае шмат. Прыход на нашыя землі хрысьціянства прыносіць нам пісьмо з багатаю, як на тую пару, царкоўнаю ды сьвецкаю літаратурай; разам хрысьціянства прыносіць нам бізантыйскую архітэктуру, малярства, музыку ды цэлы сьветагляд тагачаснага культурнага чалавека. Усе гэтыя бізантыйскія культурныя элемэнты, носьбітам якіх была акурат праваслаўная царква, пераважалі ў нашай культуры стагодзьдзямі, у некаторых галінах аж да канца XV ст. Довадам гэтага ёсьць хоць-бы той факт, што яшчэ ў XV ст. беларускіх маляроў, што выраслі на традыцыях бізантыйскіх, запрашалі на малярскую працу нават у суседнюю Польшчу. З ходам гісторыі бізантыйскія ўплывы аднак паволі ды стала ў нас слабеюць, а заходняэўрапейскія ўзрастаюць аж да поўнай дамінацыі ад XVI ст., ад пары рэнэсансу. Ударамі па бізантыйскіх культурных уплывах у нас былі татарскі наезд 1240 г. ды захоп земляў паўдзённа-усходняй Эўропы й пазьней упадак Канстантынопаля ў 1453 г.

Культурная лучнасьць з Захадам Эўропы існуе ў нас таксама здаўна. У сярэднявеччы яна ішла галоўна праз гандлёвыя сувязі зь нямецкаю Ганзаю. Сьлед іх застаўся хаця-б у нашай гандлёвай ды рамесьніцкай тэрміналёгіі нямецкага паходжаньня. Ад XIII ст. уплывы ідуць і праз нямецкія ордэны крыжакоў ды мечаносаў (напр. замкавы ґотык). Ад Крэўскай-жа вуніі 1385 г. заходнім культурным уплывам шырокая брама раскрываецца й праз польскія землі. Зь вялікім культурным уздымам пары рэнэсансу на Захадзе ад пачатку XVI ст. заходнія ўплывы ў Беларусі асабліва хутка нарастаюць. У гэтым стагодзьдзі да нас прыходзіць з захаду друк, рэнэсанс у архітэктуры, майдэборскае права нашых местаў, знаёмасьць з заходнім правам, якое прыводзіць да росквіту нашага заканадаўства (слаўныя статуты). Далейшаму азаходніваньню — вэстэрнізацыі — усяго беларускага жыцьця гэнай пары спрыяюць шырокі рэфармацыйны рух ды пазь-

нейшая каталіцкая рэакцыя на яго (за якою прыходзіць на нашыя землі барок у архітэктуры й малярстве). Берасьцейская вунія раскрывае для працэсу азаходніваньня слой духавенства ды шырэйшыя масы мяшчанства й сялянства. У выніку заходнія цывілізацыйныя элемэнты на землях Беларусі няраз цесна, неразьдзельна сьпляліся з элемэнтамі бізантыйскімі (як і радзімымі) й далі цікавую своеасаблівую сынтэзу, якую некаторыя гісторыкі мастацтва й азначаюць як галоўную характэрную асаблівасьць беларускай культуры (Шчакаціхін).

Дыскусія над пастаўленым прафэсарам Акіншэвічам пытаньнем паказала, што пагляды ў гэтай справе вельмі разьбежныя. Вельмі рознымі, няўзгодненымі ды неспрэцызаванымі аказаліся й такія поймы, як „усходняэўрапейская культура", як сутнасьць бізантыйскай цывілізацыі, як вага рэлігіі як культурна-цывілізацыйнага фактару. У дыскусіі мала краналася й пытаньне вялічыні, важнасьці й значэньня радзімых культурных элемэнтаў ды іх суадносіны да элемэнтаў „заходніх" ці „усходніх". У выніку дыскусія толькі падышла да пастаўленага рэфэрэнтам пытаньня, але яго далёка ня вырашыла.

**Вечар памяці Міколы Равенскага.** 20 сакавіка Беларускі Інстытут ладзіў у Ню Ёрку вечар памяці выдатнага кампазытара, рэгента й пэдагога, музыкаведа й этнографа, супрацоўніка й сябры Інстытуту Міколы Равенскага. На вечары былі адчытаныя рэфэраты А. Карповіча „Равенскі й пытаньне беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы" й др. У. Сядуры „Опэра „Браніслава" М. Равенскага".

Слова для ўспамінаў аб кампазытары мелі: інж. М. Абрамчык аб апошніх гадох жыцьця й творчасьці Равенскага ў Лювэне. Др. А. Орса аб дзейнасьці Равенскага ў Наваградку перад першай сусьветнай вайной і пазьней на эміграцыі, як настаўніка беларускай гімназіі ў Нямеччыне. Б. Вержбаловіч гаварыла аб гадох працы кампазытара ў Менску й на эміграцыі. А. Адамовіч правёў яскравую паралель паміж асобамі й рэгенцкаю працаю Равенскага й Тэраўскага ды падаў дакладнейшыя весткі пра генэзу паўстаньня опэры „Браніслава" Равенскага на лібрэтта Ул. Дубоўкі.

Прафэсар Беларускай Консэрваторыі спадарыня Э. Зубковіч выканала на фартап'яне творы Равенскага „Вялікая Сюіта" й п'есу „Выгнаньне". Опэрная сьпявачка Б. Вержбаловіч прапяяла народную песьню „Чалавек жонку б'е" ў гарманізацыі М. Равенскага. Як прыклады гарманізацыі народных песьняў і арыгінальных кампазыцыяў Равенскага было адыграных зь плітак 6 песьняў у выкананьні хору М. Равенскага ў Лювэне.

**Украінскі навуковы зьезд** з прычыны 80-годзьдзя Украінскай Акадэміі Навук і 35-годзьдзя Навуковага Таварыства ім. Т. Шэўчэнкі, адбыўся ў канцы сьнежня 1953 г. На гэтым зьездзе з рэфэратам „Казацтва ў Беларусі ў сярэдзіне XVII ст." выступіў сябра БІНіМ праф. Л. Акіншэвіч. У дыскусіях падчас працаў зьезду зь беларускага боку бралі ўдзел яшчэ др. У. Сядура, А. Адамовіч і др. Я. Станкевіч.

# ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

**ЛІТАРАТУРНАЯ СЭКЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

а б в я ш ч а е

## КОНКУРС НА БЕЛАРУСКАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

Дасланыя апавяданьні будуць разгледжаныя адмысловаю камісіяй і за найлепшыя творы прызначаныя гэткія ўзнагароды:

**1. — 50 ДАЛЯРАЎ**
**2. — 30 ДАЛЯРАЎ**
**3. — 20 ДАЛЯРАЎ**

### Умовы Конкурсу

1. Прынятыя будуць толькі апавяданьні яшчэ нідзе недрукаваныя.
2. Пажадана, каб апавяданьне было перапісанае машынкаю на аднэй бачыне праз радок.
3. Літаратурная Сэкцыя БІНіМ засьцерагае сабе вылучнае права першадруку ўзнагароджаных апавяданьняў.
4. Апавяданьні маюць быць падпісаныя ўмоўным імям (псэўдонімам) і перасланыя на адрыс паэты Р. Крушыны:

   Mr. G. Kazak, 191 Henry St.,
   New York 2, N. Y., U.S.A.

   Разам з творам, у заклееным канвэрце, падпісаным тым-жа ўмоўным імям, трэба пераслаць запраўдныя імя, прозьвішча й адрыс аўтара. Адзін аўтар можа прыслаць і колькі апавяданьняў.
5. Апошні тэрмін прысланьня рукапісаў (прадоўжаны) — 1 ліпеня 1954 г.

**ЛІТАРАТУРНАЯ СЭКЦЫЯ БІНіМ**